ЖНІВЕНЬ

# №2

# ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫ





МЕНСК

# ЗЬМЕСТ



---

# Да ўсіх чытачоў „Ш. К.".

**Рэдакцыя „Ш. К." просіць дасылаць матар'ялы аб тым, як разгортваецца калгаснае будаўніцтва і наогул разьвіцьцё с.-г. на мясцох. Разам з матар'ялам дасылайце малюнкі і фото-здымкі. Зьмешчаныя ў часопісу малюнкі будуць аплачаны.**

**Рэдакцыя.**

Друкарня „БДВ". Заказ № 3541. 10.000 экз. Галоўлітбел № 2582.

# ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ, ВЫТВОРЧАГА С.-Г. КААПЭРАВАНЬНЯ І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ, БЕЛКАЛГАССАЮЗУ І БЕЛСЕЛЬСАЮЗУ БССР

Выходзіць раз у месяц

| № 2 | Жнівень | 1929 г. |
|---|---|---|

## ТАВАРЫШЫ!

Рабочая кляса і працоўнае сялянства нашага Саюзу паставілі перад сабою вялізарнейшыя задачы ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва.

У кароткі тэрмін нащ Саюз павінен дагнаць і перагнаць у гаспадарчых адносінах стары капіталістычны мір, павінен замацаваць сацыялістычную аснову ўсёй нашай гаспадаркі, павінен выкарчаваць карані капіталізму.

Каб лепей выканаць гэтыя вялізарнейшыя задачы, прамысловыя рабочыя разгарнулі сацыялістычнае спаборніцтва. Спаборнічаюць паміж сабою на лепшую работу паасобныя фабрыкі і заводы, спаборнічаюць цэхі, майстэрні, спаборнічаюць цэлыя групы прадпрыемстваў. Пачалі спаборнічаць і сельскагаспадарчыя арганізацыі, калгасы, саўгасы, каапэратывы, а таксама зямельныя грамады і вёскі.

Дзякуючы сацыялістычнаму спаборніцтву рабочыя і сяляне ўжо пасьпелі за кароткі час дасягнуць аграмадных посьпехаў: расьце вытворчасьць працы на прадпрыемствах, паніжаецца сабекошт продукцыі, паляпшаецца апрацоўка зямлі, павялічваецца лік калгасаў, замацоўваюцца калгасы, расьце ўплыў аграмаджанага сэктару сельскай гаспадаркі на індывідуальны. Сацыялістычнае спаборніцтва становіцца справай мас, *стварае ў іх вялізарнейшы вытворчы ўздым*, абарачаецца ў асноўны падважнік, пры дапамозе якога працоўныя нашага Саюзу падымаюць вялікую работу па будаўніцтву сацыялізму.

Калгасы—перадавая армія байцоў за сацыялізм у вёсцы. Калгасы павінны павесьці за сабой мільёны расьцярушаных сялянскіх гаспадарак на шлях стварэньня буйной сельскагаспадарчай вытворчасьці, на шлях стварэньня сацыялістычнага земляробства, на шлях поўнага зьніштажэньня капіталістычных каранёў у сельскай гаспадарцы, на шлях перамогі над кулацтвам у вёсцы. Таму ідэя сацыялістычнага спаборніцтва павінна знайсьці шырачайшую падтрымку ў шэрагах калгасьнікаў. *Усе калгасы павінны ўвайсьці ў спаборніцтва, усе калгасьнікі павінны стаць застрэльшчыкамі спаборніцтва ў вёсцы.*

Уваходзячы ў спаборніцтва, калгасьнікі павінны памятаць, што сацыялістычнае спаборніцтва нельга разумець як канкурэнцыю. Не перамогу і сьмерць для слабых і пабеду і панаваньне для дужых павінна прынесьці сацыялістычнае спаборніцтва, а таварыскую дапамогу адстаўшым з боку перадавых з тым, каб дасягнуць агульнага ўздыму.

Сацыялістычнае спаборніцтва павінна праводзіцца толькі як *справа самых калгасьнікаў*, як справа прадуманая і вырашаная самымі кал-

гасьнікамі. Ні савет, ні кіраўніцтва калгасу, ні вышэйстаячыя органы ня могуць і не павінны замяняць каляктыў у арганізацыі і правядзеньні спаборніцтва, у разьвязаньні такіх пытаньняў, як: з кім спаборнічаць, на што спаборнічаць, на якіх умовах, як арганізаваць улік дасягненьняў і кантроль па спаборніцтву і г. д. Усе гэтыя пытаньні ўрэшце павінна вырашаць уся маса работнікаў калгасу, вышэйстаячыя органы павінны дапамагчы спаборнічаючым у апрацоўцы пляну і ўмоў спаборніцтва і наладжваньні грамадзкага кантролю і сувязі паміж арганізацыямі, якія спаборнічаюць, павінны арганізаваць і правесьці агульнае кіраўніцтва спаборніцтвам. Пры гэтым кіруючыя органы павінны ўнікаць канцылярскай апекі і бюрократызацыі кіраўніцтва. Менш спэцыяльных апаратаў для кіраўніцтва, менш выдуманых у апараце пляпаў, больш увагі самастойнасьці мас да жывога кіраўніцтва на мясцох, правільнаму ўліку вынікаў спаборніцтва.

Беспасярэдняя арганізацыя спаборніцтваў, беспасярэдняе кіраўніцтва і кантроль павінна ажыцьцяўляцца вытворчымі нарадамі, вытворчымі камісіямі і інш. органамі, якія высунуты агульнымі сходамі калгасаў.

Уваходзячы ў спаборніцтва, калгасьнікі павінны памятаць, што спаборніцтва — ня ўдарная кампанія, а *пастаянны спосаб* падвышэньня вытворчасьці працы, падвышэньня культурнасьці працоўных, перавыхаваньня працоўных у сацыялістычным духу. У справе сацыялістычнага спаборніцтва нельга застанаўляцца на выкананьні аднаго заданьня, а, наадварот, трэ' паступова павялічваць колькасьць заданьняў, ахопліваючы ўсе бакі вытворчай, культурнай і бытавой работы ў калгасе.

Заключаючы дагавор на сацыялістычнае спаборніцтва, трэ' высоўваць найбольш зразумелыя і зусім канкрэтныя (дзелавыя) ўмовы спаборніцтва.

Чым бліжэй будуць знаходзіцца адна ад аднае арганізацыі ўвайшоўшыя ў спаборніцтва, тым часьцей будзе ўзаемная праверка спаборнічаючых, тым спарней будзе спаборніцтва. Чым больш будзе агульнага ў калгасаў, якія спаборнічаюць, тым большы ўздым выкліча спаборніцтва ў калгасьнікаў, тым больш пасьпяхова будзе праходзіць само спаборніцтва і тым лягчэй будзе правесьці параўнаньне і ўлік дасягненьняў па спаборніцтву.

Калгасьнікі павінны разгарнуць спаборніцтва і ўнутры сваёй гаспадаркі, паміж паасобнымі галінамі і прадпрыемствамі калгасу і нават паміж паасобнымі членамі калгасу.

Спаборніцтва будзе мець вялікі посьпех, калі тыя, хто спаборнічае, будуць ведаць аб руху і выніках спаборніцтва. Трэ', як казаў Ленін, „каб параўнаньне дзелавых ітогаў гаспадаркі паасобных камун стала прадметам агульнага інтарэсу і вывучэньня, каб камуны, якія вызначаліся, зараз-жа ўзнагароджваліся". Таму асаблівую ўвагу трэ' ўдзяліць арганізацыям грамадзкага кантролю над ходам спаборніцтва, арганізацыі ўліку вынікаў і асьвятленьня спаборніцтва. Трэ' прыцягнуць у склад кантрольных камісій усіх спэцыялістых. Трэ' скарыстаць для асьвятленьня спаборніцтва мясцовы і цэнтральны друк, насьценгазэты, сьвята ўраджаю і с.-г. выстаўкі.

Для заахвочваньня арганізацый, якія спаборнічаюць, і паасобных выдатных таварышоў трэ', паміма агалашэньня фактаў і прозьвішчаў у друку, паміма выказу грамадзкай ухвалы ў розных формах, устанавіць спэцыяльныя фонды для прэміраваньня асабліва выдатных сваімі дасягненьнямі арганізацый. Да складаньня гэтых фондаў прыцягнуць калгасы, калгасныя аб'яднаньні і цэнтры, а таксама другія мясцовыя і цэнтральныя органы і ўстановы.

Кіраваць сацыялістычным спаборніцтвам у калгасах—значыцца накіроўваць працоўны ўздым калгасьнікаў у бок разьвязаньня найбольш важных чарговых пытаньняў калгаснага будаўніцтва і вытворчасьці.

Бліжэйшай і важнай чарговай задачай для калгасаў зьяўляецца *ўборачная кампанія.* Таму сацыялістычнае спаборніцтва ў першую чаргу трэ' згрупаваць на *ўборачнай кампаніі.*

Па заданьню савецкага ўраду калгасы павінны здаць найбольшую частку таварнага збожжа ў чэрвені—жніўні, а ўсю здачу поўнасьцю закончыць не пазьней двух месяцаў з пачатку ўборкі.

Які з калгасаў і якое з калгасных аб'яднаньняў лепей усяго правядуць падрыхтоўкі да ўборкі і абмалоту, а таксама і самую ўборку і абмалот ураджаю; хто ў кароткі тэрмін здасьць дзяржаве ўсю таварную частку ўраджаю; у каго таварная частка будзе вышэй у процантных адносінах да валавой продукцыі збожжа; хто разгорне найбольшую вытворчасьць работ па ўборцы і абмалоту; хто здасьць зерне лепш ачышчанае; хто лепш і больш дапаможа суседнім арганізацыям сацыялістычнага сэктару, бядняцкім і нямоцным індывідуальным гаспадаркам сабраць і абмалаціць, — вось асноўныя лёзунгі калгасаў па спаборніцтву ў часе ўборачнай кампаніі.

Другой ня менш важнай чарговай задачай калгасаў зьяўляецца *васеньняя пасеўная кампанія.* Таму сацыялістычнае спаборніцтва павінна разгарнуцца ў другую чаргу па лініі асеньняй пасеўнай кампаніі. Хто лепей усіх правядзе падрыхтоўку да асеньняй пасеўнай кампаніі і самую кампанію (узорваньне і пасеў азіміны, падрыхтоўку глебы пад ярыну); хто больш усіх пашырыць пасевы; хто вышэй усіх падыме агрыкультурны бок справы за асеньнюю кампанію; хто ўздыме найвышэйшую вытворчасьць працы па вясеньнім работам; хто найбольш дапаможа суседнім арганізацыям аграмаджанага сэктару і індывідуальным і бядняцкім і нямоцным гаспадаркам,—вось лёзунгі па сацыялістычнаму спаборніцтву ў асеньнюю пасеўную кампанію.

Сярод агульных сталых задач сацыялістычнага спаборніцтва на першае месца трэ', зразумела, паставіць вытворчыя задачы. Зразумела, што калгасы павінны заняць першае месца ў барацьбе за *аграмінімум* як у галіне расьлінаводзтва, так і ў галіне жывёлаводзтва. Зразумела, што калгасны аграмінімум павінен перавышаць аграмінімум аднаасабовых гаспадарак. У кожным паасобным с.-г. раёне павінны быць выпрацаваны свае ўмовы спаборніцтва ў залежнасьці ад характару гэтага раёну. Барацьба за выкананьне аграмінімуму — гэта барацьба за падвышэньне ўраджайнасьці, барацьба за зерне, барацьба за сыравіну для прамысловасьці.

Разам з гэтым калгасьнікі павінны разгарнуць барацьбу *за пашырэньне пасеўных плошчаў*, як шляхам выкарыстаньня цаліны, так і шляхам скарачэньня папарнага кліну, і *за павялічэньне жывёлы.*

Далей, трэ' паставіць задачу найбольш поўнага і рацыянальнага (правільнага) *выкарыстаньня трактараў і іншых складаных машын.*

У нас іх занадта мала, выкарыстоўваюцца яны ў шмат якіх калгасах кепска і ня поўна.

Таму падвышэньне вытворчасьці і зьніжэньне кошту работы складанага с.-г. інвэнтару павінна заняць адно з галоўных месц у спаборніцтве.

Найбольш поўнае і рацыянальнае выкарыстаньне рабочай сілы, павышэньне дысцыпліны, вытворчасьці і інтэнсыўнасьці працы, разумнае выкарыстаньне працы жанчын і моладзі, лепшая арганізацыя вытворчасьці, павышэньне валавой і таварнай прадукцыі — усё гэта таксама павінна быць у ліку асноўных задач спаборніцтва ва ўсіх раёнах, ва ўсіх галінах.

Нашы калгасы ў большасьці сваёй яшчэ надта дробныя, ступень аграмаджаньня зямлі і сродкаў вытворчасьці ў калгасах вельмі нізкая, значная частка назапашваньняў у калгасах ідзе не ў каляктыўныя сродкі, а ў індывідуальныя. Сродкаў самой насельнасьці ў калгасы ўцягнута вельмі мала. Калгасьнікі яшчэ да апошняга часу не разгарнулі шырокай працы па ўцягненьню ў свой склад беднаты, батракоў, асабліва серадлякоў, і па арганізацыі ў сваіх раёнах новых калгасаў.

Пры правядзеньні сацыялістычнага спаборніцтва пытаньне ўзбуйненьня калгасаў і рэшта пералічаных пытаньняў павінна стаць перад калгасьнікамі ва ўсім сваім аб'ёме.

Сацыялістычнае спаборніцтва павінна дапамагчы ў разьвязаньні задач палітычнай і культурна-бытавой рабоце ў калгасах. Можна і павінна спаборнічаць на лепшую работу партыйных і камсамольскіх ячэек, сельскагаспадарчых і іншых гурткоў у калгасах, на лепшую работу школ калгаснага вучнёўства, на больш пасьпяховую ліквідацыю няпісьменнасьці сярод калгасьнікаў, на лепшую пастаноўку піанэрскай работы, на лепшую работу па выхаваньню дзяцей наогул, на лепшую арганізацыю грамадзкага жыўленьня ў калгасах і. г. д.

Найбольшы і найлепшы ўплыў калгасаў на суседнія вёскі па ўцягненьню індывідуальных гаспадарак у каляктыўныя формы працы, у сэнсе агрыкультурнага ўплыву на іх і вытворчай дапамозе бядняцкім, нямоцным гаспадаркам павінна ўваходзіць у кола сацыялістычнага спаборніцтва калгасаў.

Калгасныя аб'яднаньні, усе працаўнікі калгаснай сыстэмы—павінны прыняць актыўны ўдзел у сацыялістычным спаборніцтве. Тут спаборніцтва трэ' накіраваць, галоўным чынам, на *павышэньне якасьці абслугоўваньня калгасаў*. Вытворчыя пляны, кантрактацыя, рахункаводства і справаздачнасьць, работа па падрыхтоўцы кадраў калгасных кіраўнікоў, усялякае палепшаньне калгаснага апарату, асабліва ў частцы гаспадарчага абслугоўваньня калгасаў, — усе гэтыя пытаньні павінны заняць галоўнае месца ў спаборніцтве апарату калгаснай сыстэмы. Калгасныя органы павінны зрабіць усё для таго, каб выявіць лепшых сваіх работнікаў.

Сацыялістычнае спаборніцтва трэ' разгарнуць ва ўсю шырыню і глыбіню.

За найлепшае выкананьне бліжэйшых чарговых задач калгасаў у часе ўборачнай і пасеўнай кампаній!

За неперарыўнае ўзмацненьне росту калгаснага руху!

За ўцягненьне ў калгасы батракоў, беднякоў і серадлякоў!

За ўмацаваньне існуючых і арганізацыю новых буйных калгасаў!

За павышэньне ступені аграмаджаньня сродкаў вытворчасьці ў калгасах!

За палепшаньне вытворчасьці, за павышэньне працоўнай дысцыпліны і ўздым працы ў калгасах!

За зьніжэньне сабекошту калгаснай продукцыі!

За павышэньне валавой і таварнай прадукцыі калгасаў!

За разьвіцьцё палітычнай і культурна-бытавой работы ў калгасах!

За пашырэньне і паглыбленьне агрыкультурнага і арганізацыйна-вытворчага і палітычнага ўплыву калгасаў на індывідуальны сэктар!

За лепшае арганізацыйна-вытворчае, гаспадарчае і культурнае абслугоўваньне калгасаў!

За актыўны ўдзел шырокіх мас калгасьнікаў і калгасаб'яднаньняў у сацыялістычным спаборніцтве.

**VII сэсія Ўсесаюзнага савету калгасаў.**

---

# Аб апэрацыйна-гаспадарчых функцыях у калгаснай сыстэме БССР.

Шырока разгарнуўшаеся калгаснае будаўніцтва асабліва ў апошнія два гады, шляхам масавае арганізацыі новых калгасаў і значнае колькасьці буйных калгасаў, якія ўсё больш і больш ахопліваюць і ўцягваюць у свае шэрагі новыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, пры адначасовым узросьце валавой і таварнай прадукцыі гэтых калгасаў—даюць падставу канстатаваць аб тым, што калгасны рух зьяўляецца асноўным элемэнтам агульнае рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Усё гэта выклікае зараз неабходнасьць перагляду мэтадаў дзейнасьці калгаснай сыстэмы наогул і форм узаемаадносін паміж аддзельнымі яе зьвеньнямі.

Пачаўшыйся рост буйных калгасаў па БССР, аб'яднаючых сотні сялянскіх двароў і цэлыя вёскі з тысячамі гектар зямельнай плошчы (калгасы ў 1, 2, 3 і 4 тыс. га.), высоўвае шэраг новых праблем перад калгаснай сыстэмай.

Буйныя калектыўныя гаспадаркі, дзякуючы сваей значнай складанасьці, патрабуюць да сябе большае ўвагі і паглыбленага арганізацыйнавытворчага і агратэхнічнага абслугоўваньня, у сувязі з чым неабходна вырашыць наступнае пытаньне: скарыстаньне лішкаў рабочае сілы, арганізацыя трактарных калён, шырокае разгортваньне індустрыялізацыі, лепшае наладжваньне збыту і снабжэньня, а таксама стварэньне арганізацыйнае гаспадарчае сувязі калгаснае сыстэмы з іншымі арганізацыямі, абслугоўваючымі калгасы.

Апошнія зьвесткі аб арганізацыі буйных калгасаў у цэлым шэрагу акруг БССР запэўняюць нас у тым, што ў бліжэйшы час у гэтым напрамку мы будзем мець новыя яшчэ большыя дасягненьні. Аднача-сова трэба мець на ўвазе існуючыя калгасы сярэдняга і дробнага разьмеру, у адносінах якіх трэба ставіць пытаньне аб хутчэйшым іх узбуйненьні і перарастаньні ў вышэйшыя формы калектыўнага земляробства, аб лепшае арганізацыі працы ў іх і наогул іх узмацненьне шляхам куставаньня.

Усё гэта патрабуе адзінага канцэнтраванага мэтада абслугоўваньня і плянавага кіраўніцтва тымі вялізарнейшымі і труднейшымі сацыяльна-арганізацыйнымі працэсамі, якія зараз маюцца і разьвіваюцца ў калгасным руху. Трэба канстатаваць, што існуючая да гэтага часу сыстэма абслугоўваньня і кіраўніцтва калгасным рухам становіцца зусім нямэтазгоднай.

Характэрызуючы гаспадарчае абслугоўваньне калгасаў, якое маецца ў сучасны момант, трэба сказаць каротка аб тым парадку снабжэньня калгасаў сродкамі вытворчасьці, які зараз маецца. Снабжэньне калгасаў праводзіцца сыстэмай сельска-гаспадарчай каапэрацыі—Белсельсаюзам праз Акрсельсаюзы і Унівэрсальныя крэдытныя таварыствы. У агульных плянах гэтых арганізацый недастаткова выстарчальна вызначана плянавае снабжэньне калгасаў сродкамі вытворчасьці. Гэтае снабжэньне наогул працякае ў абезьлічаным і безразьлічным выглядзе. Цэлы шэраг фактаў аб снабжэньні калгасаў складанымі малатаркамі, снапавязалкамі, абсталяваньнем для крухмальных заводаў, будаўнічымі матар'яламі і г. д. яскрава сьведчаць аб гэтым (прыклады: камуна імя „Карла Лібкнэхта", імя XII Зьезду КП(б)Б і „Кароткавічы").

Трэба канстатаваць таксама і тое, што сыстэма сельска-гаспадарчае каапэрацыі ня імкнулася належным чынам вырашыць адзначаныя

недахопы. У гэтых адносінах снабжэнчаская работа значна адставала ад работы збытавой. Збытавая работа вялася ў такім напрамку, што яна не стымуліравала спэцыялізацыі калгасаў, разгортваньню спэцыяльных розных галін сельскае гаспадаркі калгасаў.

Разрыў і адсутнічаньне шчыльнай сувязі паміж снабжэньнем і збытам у калгасах ніяк не стымуліравалі гэтых працэсаў, вышэйшыя-ж зьвеньні калгаснае сыстэмы былі адарваны ад гэтай гаспадарчай дзейнасьці калгасаў, што не давала магчымасьці сваечасовага кіраўніцтва, сыгналізіраваньня забясьпечаньня калгасаў як сродкамі вытворчасьці, гэтак і прамыслова-спажывецкімі таварамі.

Кантрактацыя таксама ня мела ніякага ўплыву на працэсы калектывізацыі індывідуальных сялянскіх гаспадарак.

Крэдытаваньне ў значнай часткі праводзілась нездавальняюча, хаця бы ў галіне таго, што значная частка, асабліва старых калгасаў, закрэдытавана, а шэраг-жа калгасаў наадварот не задавальняўся неабходнай колькасьцю крэдытаў; адсутнічалі мэтады комплекснага крэдытаваньня; крэдыты зусім слаба аказвалі ўплыў на працэсы абагульваньня ў калгасах. Адсутнічала таксама сувязь крэдытнай сыстэмы з другімі рычагамі калектывізацыі.

Адсутнічаньне сувязі паміж збытам і снабжэньнем з аднаго боку, а таксама крэдытаваньнем і агратэхнічнай дапамогай, з другога боку, не садзейнічалі ўзбуйненьню калгасаў, іх перарастаньню ў вышэйшыя формы і наогул аслабляла эфэктыўнасьць усей работы.

Уся праца па крэдытаваньню калгасаў праводзілася нізавымі крэдытнымі таварыствамі, а той хто ведае сучаснае становішча і працу гэтых таварыстваў, таму зусім ня трэба даказваць, што яны ня толькі ня могуць заняцца працай па арганізацыі калектыўных гаспадарак, але нават у справе крэдытаваньня існуючых калгасаў ня могуць належным чынам выконваць сваіх абавязкаў. Усе гэтыя недахопы ў справе калектывізацыі павінны быць зьнішчаны. Дзеля гэтага ўжо намечаны шляхі: законам Саюзнага Ўраду ад 21-га чэрвеня г/г. Гэтым законам сыстэме сельска-гаспадарчых калектываў надаецца права самастойна весьці апэрацыйна-гаспадарчую работу ў калгасах, што дасьць магчымасьць ліквідаваць усе тыя недахопы, якія меліся да гэтага часу.

Вось чаму зараз-жа трэба рэарганізаваць формы далейшай працы калгаснай сыстэмы, прыстасаваўшы апошнюю да гэтых новых задач.

У адносінах машынаснабжэньня праца ў далейшым павінна пайсьці наступным чынам: за 6 месяцаў да пачатку гаспадарчага году калгасы і куставыя аб'яднаньні павінны даць сваім акруговым саюзам дэталёвыя заяўкі на патрэбныя машыны з адзначэньнем сыстэмы, маркі і г. д. Акркалгассаюзы суміруюць гэтыя заяўкі і накіроўваюць іх у калгасны цэнтр (Белкалгассаюз).

Калгасны цэнтр абагульвае акруговыя заяўкі і на падставе іх заключае генэральныя дагавары з прамысловасьцю і адпаведнымі машынаснабжаючымі каапэрацыйнымі цэнтрамі.

У мэтах паменшаньня накладных выдаткаў на машыны, апошнія павінны перасоўвацца транзітным парадкам непасрэдна з заводу ў калгас у куст, што дасьць магчымасьць пазбавіцца ад пабудовы спэцыяльных складачных памяшканьняў пры калгасаб'яднаньнях як у цэнтры, гэтак і ў акругах.

Апэрацыі па снабжэньню калгасаў усімі неабходнымі сродкамі вытворчасьці і па збыту таварнай прадукцыі калгасаў таксама вытвараюцца калгассыстэмай на падставе генэральных дагавароў з сыстэ-

май сельска-гаспадарчай каапэрацыі. У гэтых дагаварох павінны быць улічаны ня толькі заяўкі калгасаў па іх вытворчых плянах, але і агульны плян каляктывізацыі сельскае гаспадаркі ў даным раёне.

Крэдытныя органы павінны зрабіць свой апарат больш гібкім і хутчэй праводзіць усе апэрацыі па крэдытаваньню.

Акркалгассаюзы разгледжваюць і зацьвярджаюць крэдытна-фінансавыя пляны калгасаў і куставых аб'яднаньняў. Гэтыя пляны сумесна з апэрацыйна-вытворчымі плянамі калгассаюзаў накіроўваюцца цэнтруа які зацьвярджае і разьмяркоўвае крэдыты па асобным акругам, куставым аб'яднаньням і буйным калгасам і адначасова забясьпечвае кантроль над правільным скарыстоўваньнем крэдытаў. У неабходных выпадках калгасная сыстэма мае права зачыняць крэдыты, датэрмінова ўзысківаць, пераразьмяркоўваць і г. д.

Трактар у сучасны момант павінен заняць належнае месца ў рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Адсутнасьць трактароў зараз затрымлівае масавую калектывізацыю і арганізацыю буйных калгасаў на Беларусі. Па гэтаму пытаньне масавага завоза трактароў і арганізацыі трактарных калён і станцый зьяўляецца важнейшай першачарговай задачай, якой павінен заняцца калгасцэнтр.

Кантрактацыя павінна праводзіцца непасрэдна Калгассыстэмай, якая заключае генэральныя дагавары з адпаведнымі арганізацыямі і ўстановамі на здачу кантрактованай прадукцыі.

У заключэньне трэба адзначыць тыя абавязкі, якія падаюць на асноўныя зьвеньні калгаснае сыстэмы пры выкананьні імі апэрацыйна-гаспадарчых функцый:

1) Куставыя аб'яднаньні снабжаюць куставаныя калгасы сродкамі вытворчасьці з утварэньнем у выпадку неабходнасьці дзеля гэтага сваіх складаў, набываньне неабходных матар'ялаў, запасных частак і г. д. Яны-ж арганізоўваюць калектыўны збыт прадукцыі калгасаў праз Акркалгассаюзы альбо Калгасцэнтр.

У функцыі куставога аб'яднаньня ўваходзяць таксама вытворчае крэдытаваньне калгасаў з сродкаў, атрыманых ад адпаведных крэдытных устаноў; арганізацыя тэхнічных прадпрыемстваў для перапрацоўкі сыравіны калгасаў, набыцьцё для сумеснай эксплёатацыі складаных сельска-гаспадарчых машын і г. д.

2) Акркалгассаюзы ажыцьцяўляюць кіраўніцтва над кустамі і некуставанымі калгасамі; яны снабжаюць калгасы неабходнымі сродкамі вытворчасьці, збываюць іх прадукцыю, разьмяркоўваюць крэдыты паміж калгасамі і куставымі аб'яднаньнямі, закрываюць і адчыняюць крэдыты і г. д.

3) Белкалгассаюз заключае генэральныя дагаворы з дзяржаўнымі ўстановамі і цэнтральнымі каапэрацыйнымі арганізацыямі на снабжэньне калгасаў сродкамі вытворчасьці і розным абсталяваньнем на падставе заявак Акруговых саюзаў калгасаў, куставых аб'яднаньняў.

Буйныя калгасы снабжаюцца непасрэдна калгасцэнтрам. Ён жа заключае з адпаведнымі ўстановамі генэральныя дагавары на збыт прадукцыі калгасаў уваходзячых у сетку Акркалгассаюзаў і куставых аб'яднаньняў, а таксама прадукцыі буйных калгасаў.

Белкалгассаюз ажыцьцяўляе агульнае кіраўніцтва, складае апэрацыйныя пляны па збыту і снабжэньню ўсей сыстэмы, складае фінансава-крэдытныя пляны і г. д.

Старшыня Белкалгассаюзу **Сьмірноў.**




# Аб буйных калгасах.

За апошні год калгаснае будаўніцтва на Беларусі мае значныя дасягненьні. Бядняцка-серадняцкая частка вёскі зараз упэўнілася ў тым, што толькі шляхам калектывізацыі яны змогуць падняць сваю гаспадарку і выйсьці з эканамічнага тупіка. Вось чаму ў шэрагу раёнаў, напрыклад, у Клімавіцкім, Магілеўскай акругі, Лоеўскім, Гомельскай акругі і Жлобінскім, Бабруйскай акр. калектывізацыя набывае масавы характар. У адным Клімавіцкім раёне арганізавана 6 калгасаў на плошчы 5.538 гектараў, прычым у Пуцілімскім с-с. гэтага раёну трыма калгасамі ахоплена плошча ў 2.550 гект. Памянёны сельсавет калектывізаваны амаль што на 75 проц. Не на многа адстае ад Пуцілімскага Ручаёўскі с-с., Лоеўскага раёну, які складанымі формамі калгасаў (камуны, арцелі) калектывізаваны звыш чым на 50 проц. Гэтакія-ж выпадкі маюцца і ў іншых акругах. Ёсьць шэраг выпадкаў, калі ў калгас уваходзіць цэлая вёска. Калгасаў ад 500—1.000 гект. па ўсёй Беларусі зараз маецца каля 50-ці, а калгасаў звыш 1.000 гект. зямлі каля 15.

Калгас імя „XI год Кастрычнікавай Рэвалюцыі" Жлобінскага раёну, Бабруйскай акр. аб'яднае 2.500 гект. зямлі. Усё гэта сьведчыць аб тым, што калектывізацыя значна выперадзіла намечаныя пляны. (Бабруйская, Гомельская і Магілеўская акругі выканалі намечаны плян звыш чым на 200 проц.). У сучасны момант Белкалгассаюз паставіў мэтай на працягу 1—2 год поўнасьцю калектывізаваць 6 сельсаветаў і 1 раён. Пры гэтым напрамак на арганізацыю буйных калгасаў, якія-б мелі магчымасьць скарыстаць перавагі буйнага калектыўнага земляробства, некаторымі акругамі (Бабруйская, Магілеўская, Гомельская), выконваецца.

Гэткае шпаркае разгортваньне працы па арганізацыі буйных калгасаў вымагае неабходнасьці забясьпечаньня іх належным арганізацыйным і гаспадарчым абслугоўваньнем, бо нармальнае разьвіцьцё новых калгасаў і пасьпяховасьць далейшага калгаснага разьвіцьця, у асноўным, будзе залежыць ад таго, як гаспадарча і арганізацыйна будуць замацаваны буйныя калгасы.

Паколькі буйным калгасам павінна быць удзелена асаблівая ўвага ў адносінах першачарговага снабжэньня, збыту прадукцыі, аграномічнага і культурнага абслугоўваньня, дык перш за ўсё неабходна вырашыць, якія калгасы мы павінны ў беларускіх умовах лічыць буйнымі.

У РСФСР і УССР, дзе с.-г. напрамак у калгасах, галоўным чынам, зернавы, там у аснову азначэньня буйнасьці калгасу ўзята пасеўная плошча; там устанавілі, што буйнымі зьяўляюцца калгасы, якія маюць 2.000 і звыш гектараў пасеўнай плошчы. Гэткія калгасы будуць абслугоўвацца непасрэдна калгасцэнтрам з Масквы (РСФСР) і Харкаву (УССР).

У нашых-жа беларускіх умовах—з болей інтэнсыўнымі гаспадаркамі, дзе таварная прадукцыя жывёлаводзтва складае больш 50 проц.

(прычым малочнае жывёлаводзтва ў далейшым павінна заняць цэнтральнае месца ў прыбытковасьці гаспадаркі), паказчыкамі для ўстаноўленьня, якія калгасы трэба лічыць буйнымі, неабходна ўзяць не пасеўную, а ўдобную с.-г. плошчу, куды ўваходзіць і сенажаць. Або дадаваць колькасьць галоў малочнае жывёлы, садовай плошчы і гароду.

Вось як можна вызначаць: калгас у 1.000 і звыш гектараў удобнай с.-г. плошчы: 100 гект. садовай плошчы, 150 гект. гароднае, альбо калгас, які мае 500 і звыш галоў малочнай жывёлы, трэба лічыць у нашых умовах буйным. У гэткіх калгасах, дзякуючы іх інтэнсыўнасьці, на 1 гект. с.-г. плошчы будзе значна больш капітальных укладаньняў, чым на 2 гект. с.-г. плошчы ў зернявых калгасах РСФСР і Украіны, а таму па разьмеру зямельнай плошчы нашы буйныя калгасы могуць быць значна меншымі.



Трактарнае ўзорваньне азімага кліну ў буйным калгасе

Высока інтэнсыўныя гаспадаркі і меншых памераў могуць быць прылічаны да буйных калгасаў. Усе гэтыя калгасы як арганізацыйна, так і гаспадарча будуць абслугоўвацца непасрэдна Белкалгассаюзам. Гэтым самым магчыма будзе забясьпечыць буйныя калгасы правільным кіраўніцтвам.

У зьвязку са сканчэньнем земляўпарадкаваньня ў буйных калгасах і пераходу ад індывідуальных гаспадарак да вядзеньня супольна адзінаабагуленай гаспадаркі, кіраўнікі гэтых калгасаў і абслугоўваючы апарат павінны правільна вырашыць наступнае пытаньне:

а) Зрабіць ацэнку маемасьці індывідуальных гаспадарак для прыняцьця ў рахунак калгасу, пая, укладу, або якасьці непадзельнага капітала. Пры гэтым асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на большае ўцягненьне ў калгасы сялянскіх сродкаў, для чаго неабходна сярод калгасьнікаў праводзіць растлумачальную работу ў гэтым напрамку, а таксама стымуляваць уцягненьне сялянскіх сродкаў звыш пая, выплатай процантаў за карыстаньне ўкладамі.

Між іншым, як ненармальнае зьявішча, трэба адзначыць, што ёсьць шэраг выпадкаў, калі выручаныя грошы за ліквідаваную маемасьць зьверх устаноўленага паю ня ўносяцца членамі як уклад у калгас, а здаюцца ў рост іншым установам, або прыватным асобам. З гэткімі зьявішчамі неабходна весьці рашучую барацьбу і ні ў якім разе не дапушчаць адплыву сялянскіх сродкаў куды-небудзь.

б) Буйныя калгасы будуць нармальна і пасьпяхова разьвівацца пры ўмовах плянавага вядзеньня іх гаспадаркі і правільнай пастаноўкі ўліку ўсіх галін гаспадаркі. Для правядзеньня гэтага ў жыцьцё, калгассаюзам, сумесна з кіраўнікамі буйных калгасаў, неабходна дабіцца таго, каб у кожнай акрузе па лініі зямельных органаў былі вылучаны агранамічныя працаўнікі, якія заняліся-б складаньнем вытворчых і арганізацыйных плянаў з такім разрахункам, каб вытворчыя пляны ўсіх

буйных калгасаў былі складзены на працягу верасьня м-ца, а арганізацыйныя не пазьней 1-га студзеня 1930 г. Калгасы, якія ня маюць у сваім складзе рахункаводаў, павінны забясьпечвацца імі найманьнем і адразу-ж з першага дня існаваньня калгаса павінны наладзіць рахункаводзтва ўва ўсіх яго галінах. Бо калі ў гаспадарцы, дзе маецца звыш 1.000 гект. зямлі і 100 гаспадарак, ня будзе пастаўлен належным чынам вучот, дык на працягу 1 тыдня так заблытаецца справа, што наогул нельга будзе разьвіваць гаспадарку.



Трактарнае жніво ў буйным калгасе.

в) Да складаньня арганізацыйных плянаў кіраўніком калгасаў, пры дапамозе акркалгассаюзаў неабходна будзе распрацоўваць пытаньне аплаты за працу. Якія бы мэтады аплаты за працу ня былі ўзяты ў аснову, ці то па працоўным днём, ці зьдзельная па нормах выпрацоўкі, неабходна памятаць, што бюджэт калгасьніка ў першы год арганізацыі калгасу ня можа быць больш бюджэта бядняцка-серадняцкай гаспадаркі. А таму папярэдне неабходна вылічыць усе магчымасьці гаспадаркі і ўстанавіць такі разьмер аплаты за працу, каб ня было праяданьня крэдытаў і асноўных капіталаў.

г) Для таго, каб ня было ніякіх прагулаў, савет, ці праўленьне калгаса павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на разьмеркаваньне абавязкаў паміж членамі, вызначэньне загадчыкаў паасобных галін і прымацаваньне калгасьнікаў на больш-менш сталую працу па розных галінах.

Вось тыя асноўныя пытаньні, якія неабходна вырашыць зараз-жа пасьля земляўпарадкаваньня буйнага калгаса і пераходу да вядзеньня супольнай гаспадаркі.

Аграном Белкалгассаюзу **М. Цынкоў.**

---

# Шляхі калгаснага будаўніцтва на Беларусі.

Сялянства Беларусі добра зразумела пастановы камуністычнай партыі аб калектывізацыі.

Яно ведае, што перад карлікавай, малатаварнай гаспадаркай бядняцка-серадняцкіх мас, пры вострым малазямельлі ў Беларусі ёсьць толькі адзін шлях—шлях калектывізацыі. Лінія партыі—на масавую калектывізацыю супроць хутароў, гэта лінія будзе забясьпечана ў практыцы абсалютна ўсіх нашых органаў „так сказаў генэральны сакратар КП(б)Б тав. Гамарнік і вось мы бачым, што гэтая лінія цалкам адпавядае жаданьням і імкненьням самых шырокіх бядняцка-серадняцкіх колаў беларускае вёскі. Мы бачым, што калгасны рух на Беларусі ў сучасны момант набыў грандыёзныя разьмеры: коль-

касьць калгасаў, меўшыхся на I/X 1928 году з 994 адзінак павялічылась да 1570 адзінак. Плошча пад калгасамі ўзрасла з 94.458 га да 237.111 га, больш чым у два разы. Дырэктывы Ураду аб стварэньні калгасаў на плошчы ня менш 140 га выканана па БССР з перавышэньнем.

Калгасны рух Беларусі ў гэтым годзе зрабіў рэзкі пералом у бок арганізацыі буйных калгасаў, калгасаў-гігантаў, будучых хлебных фабрык. Зараз на Беларусі створана 77 буйных калгасаў, маючых зямельную плошчу звыш 500 га, у тым ліку 22 калгаса з плошчай ад 1000 да 4000 гектар. Амаль кожны дзень прыходзяць з розных куткоў Беларусі зьвесткі аб арганізацыі ўсё новых і новых буйных калгасаў.



Даеньне кароў у яўрэйскім калгасе „Новы Сьвет", Брагінскага раёну, Гомельскае акр.

Адначасова праводзіцца значная работа па ўзбуйненьню старых калгасаў, як шляхам зьліяньня сумежных дробных калгасаў у адзін больш буйны, так і шляхам далучэньня да існуючых калгасаў акаляючых пасёлкаў, вёсак, іх частак і паасобных груп сялянства.

За 10 месяцаў гэтага 1928-29 г. па БССР праз зьліяньне 46 дробных калгасаў арганізавалась 23 больш буйных і апроч таго 128 калгасаў узбуйнена на 16.684 га.

Які-ж сацыяльны склад нашых калгасаў? Зараз—батрацка-бядняцка-серадняцкі. Маючаяся праслойка сераднякоў - заможнікаў вельмі нязначная: каля 2⁰/₀. Кулакоў у калгасах няма. Яны—ворагі калгаснага будаўніцтва і калі пранікаюць у калгас, то толькі з мэтай яго разлажэньня, зьнішчэньня. З кожным годам імкненьне серадняцтва да калектывізацыі павялічваецца. Па новым калгасам, арганізаваным у гэтым годзе, звыш 38⁰/₀ насельніцтва—сераднякі. Гэта паказвае, што серадняцтва рашучымі крокамі пайшло рука аб руку з беднатой на барацьбу супроць кулацтва, за калгас супроць хутара.

На Беларусі ствараюцца ня толькі беларускія калгасы, а таксама і інш. нацыянальныя калгасы. У гэтым годзе арганізавана 34 новых яўрэйскіх, польскіх і латыскіх калгасаў. З усёй колькасьці маючыхся у БССР калгасаў у 1570 адзінак мы маем 1290 беларускіх, 249 яўрэйскіх, 22 польскіх, 4 латыскіх, 1 кітайскі і 1 цыганскі калгасы.

У гэтым годзе на земляўпарадкаваньне калгасаў зьвернута асаблівая ўвага; меўшыя месца яшчэ вясной гэтага году выпадкі пагрозы невыкананьня пляна земляўпарадкаваньня калгасаў—зьнішчаны. Усе тыя

выпадкі, калі калгасы не земляўпарадкаваліся на некалькі гадоў—ліквідаваны. Мы зараз упэўнены, што ўсе новыя калгасы, арганізаваныя да 1-VI г. г. будуць упарадкаваны поўнасьцю.

Існуючыя калгасы зараз узмацняюцца як у арганізацыйных, так і ў гаспадарчых і культурна-бытавых адносінах. Калгасы зараз зьяўляюцца ініцыятарамі чырвоных абозаў на вёсцы і першыя здаюць свае хлебныя лішкі Дзяржаве.

Калі ў мінулым годзе па кантрактацыі было здано калгасамі 3.811 цэнтнераў збожжавых культур, то ў гэтым годзе па пляну было намечана здаць каля 17.000 цэнтнераў, а па зьвестках акруговых саюзаў калгасаў—будзе здано звыш 49.000 цэнтнераў збожжа. Да гэтага часу калгасамі ўжо здано звыш 5.000 пудоў збожжа.

Вядома, што гэта вельмі перашкаджае кулацкім імкненьням і думкам; кулакі заўсёды хавалі хлеб, зрывалі хлебазагатоўкі, узьвінчвалі цэны на рынку і г. д. Калгасныя і саўгаскія лішкі хлеба, зданыя Дзяржаве—моцны рэгулятар рынычных цэн.

Кулацтва бачыць у калгасах свайго бязьлітаснага ворага, які нясе яму сьмерць і канец гаспадараньня і эканамічнай улады на вёсцы. Кулак і калгас—ніколі ня змогуць існаваць разам.

І вось, бачучы надзвычайныя посьпехі калектывізацыі на вёсцы,—кулацтва, у імкненьні як-небудзь спыніць гэты вялізарны рух, ідзе на ўсё, пачынаючы з агітацыі і канчаючы пагрозай і нават выпадкамі тэрору...

Вось чаму мы маем зараз па БССР актыўныя выступленьні кулацтва. Кулацкі агітпроп ідзе на розныя хлусьні, блытаніну, правакацыю, угаворы, пагрозы... Ён скарыстоўвае сучасны момант, падзеі ў Кітаі, ашукоўвае сялянства і г. д.

Калі гэта не дапамагае—ён не застанаўліваецца і перад далейшымі крокамі.

Кулацтва робіць падпал маёмасьці калгасаў, а таксама ўступаючых у калгасы (9 выпадкаў), робіць адкрыты напад на дзеячоў калгаснага руху на вёсцы (5 выпадкаў), зьбівае калгасьнікаў і іх дзяцей (6 выпадкаў), зьнішчае і калеча калгасную жывёлу (2 выпадкі), зрывае земляўпарадкаваньне на вёсцы, дзе арганізуюцца калгасы, адказваясь даць каморніку неабходную рабочую сілу. Вось што робіць кулацтва,—каб спыніць моцны калгасны рух! Але—дарэмна, бо ніякія кулацкія выпады нічога ня змогуць зрабіць супроць волі мільёнаў працоўных бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

Калгасы перабудоўваюць нашу старую, адсталую вёску, робяцца прыкладамі новага, лепшага жыцьця, зьяўляюцца сапраўдна культурнымі ачагамі, цэнтрамі культурнае машынізіраванае сельскае гаспадаркі.

Калгасы праз арганізацыю розных культурна-бытавых устаноў раскрапашчаюць жанчын: ужо зараз у калгасах маюцца 62 пляцоўкі, 94 ясьляў, арганізавана 25 школ. Культурны ўзровень калгасьнікаў значна вышэй узроўня звычайнага селяніна. Вось чаму ў калгасах арганізуюцца розныя культурныя ўстановы—маецца 110 бібліатэк, 20 хатчытальнень, 102 чырвоных куткі, 74 клюбы, 114 радыё-установак і г. д. Калгасы першымі на вёсцы прынялі ўдзел у сацыялістычным спаборніцтве, першыя пайшлі ў гэтым напрамку за рабочай клясай. Магутная хваля спаборніцтва ўжо ахапіла звыш 300 калгасаў Беларусі, якія праз энтузыязм сваіх членаў усяляк узмацняюць сваю гаспадарку, падвышаюць ураджайнасьць, паляпшаюць вытворчасьць, памяншаюць

сабекаштоўнасьць прадукцыі і г. д. Сацыялістычнае спаборніцтва ахоплівае сваім высокім парывам ня толькі старыя калгасы, а таксама і новыя, арганізуючыяся калгасы...

У мэтах далейшага ўзмацненьня калгаснага руху мы павінны высунуць перад калгасамі цэлы шэраг канкрэтных задач, у першую чаргу—іх узбуйненьне, калі гэтыя калгасы дробныя, іх узмацненьне, як арганізацыйнага, так і гаспадарчага, праз уваходжаньне ў кустав ыя аб'яднаньні, праз інтэнсіфікацыю, машынізацыю і індустрыялізацыю свае сельскае гаспадаркі. Калгасы павінны паставіць мэтай уцягваньня ў калгасны рух новых шэрагаў батракоў, беднаты і серадмякоў. Усе калгасы, у мэтах практычнага ўдзелу ў пабудове сацыялізму ў нашай краіне і ўзмацненьня яе абараназдольнасьці—павінны набываць абліганыі 3-й пазыкі індустрыялізацыі і прыцягваць да гэтае справы ўсіх сваіх членаў пад лёзунгам—„Ніводнага калгасьніка і ніводнага калгасу без абліганыі 3-й пазыкі". Апрача таго, яны павінны праявіць ініцыятыву па правядзеньні аднaчасовага адлічэньня аднаднеўнага заробку на карысьць індустрыялізацыі і калектывізацыі.

Калгасы павінны стаць у першых шэрагах па арганізацыі чырвоных абозаў, сумесна з сялянствам, па здачы лішкаў збожжа Дзяржаве праз каапэрацыю.

Уся грамадзкасьць вёскі і гораду павінны дапамагаць калектывізацыі. Рабочыя фабрык і заводаў павінны ўзяць шэфства над калгасамі. У мэтах культурнай і інш. дапамогі партыйныя, савецкія, каапэрацыйныя і інш. арганізацыі і ўстановы—ваша справа—усяляка дапамагаць калгасам, калгаснаму руху, каб ён яшчэ больш узмацняўся згуртоўвая бядняцка-серадняцкія масы вёскі ў цесны саюз з рабочай клясай вакол Комуністычнай партыі супроць кулака на далейшую клясавую барацьбу за сацыялізм!..

С. К—ў.

---

# Ударым па кулаку, узмацнім калгасны рух.

## Аслабленьне калгаснага фронту на Краснапольшчыне.

Чырвонапольскі раён Магілеўскае акругі мае вялікае сель.-гаспадарчае значэньне, як ільнаводны раён. У зьвязку з гэтым у ім зараз праводзіцца суцэльнае земляўпарадкаваньне.

Аднак, у раёне няма ніякай увязкі паміж земляўпарадчымі і аграномічнымі работамі. Амаль што да апошняга часу ў раёне працаваў толькі адзін раённы аграном, які, вядома, ня мог справіцца з усёй работай.

Цяпер у раёне ёсьць 17 калгасаў. З іх 4 яшчэ не земляўпарадкаваны.
У справе земляўпарадкаваньня калгасаў раёну да гэтага году была вялікая блытаніна. Так сель.-гас. арцель імя Нарыманава, арганізава-

ная ў 1925 годзе,—была земляўпарадкавана толькі ў 1928 г. Шэраг калгасаў, арганізаваных у 1927-28 г., ня былі земляўпарадкаваны да бягучага году.

Нядаўна ў раёне развалілася 12 калгасаў, у тым ліку—10 у часе земляўпарадкаваньня і 2—земляўпарадкаваныя да бягучага году. (у 1928 г.).

*Па сваёй масавасьці гэты развал зьяўляецца першым выпадкам за апошнія гады на Беларусі.*

Галоўнай прычынай гэтага цяжкага ўдару па калгасным будаўніцтве ў Чырвонапольскім раёне паслужыла бясплянавая, стыхійная арганізацыя дробных калгасаў (выпадкі арганізацыі 4 калгасаў у аднэй вёсцы—Дзернавая), хістаньня сярод саміх арганізатараў калгасаў, дрэнны ўплыў хворых зьявішч у некаторых старых калгасах (унутраныя спрэчкі, нелады і г. д.).



КОЛГАСЫ МАГІЛЕЎШЧЫНЫ.

Карова Красулька, якая дае за 4 месяцы да ацёлу 45 шклянак малака з 4,7% жыру.

Кулацтва часамі адкрыта выступала супроць калгасаў, або імкнулася ўзорваць іх з сярэдзіны. Заможная частка вёскі часта скарыстоўвала калгасны рух у сваіх карысьлівых мэтах, уступаючы ў калгас з тым, каб застацца на лепшым кавалку зямлі. Трапіўшы ў калгасы, кулакі імкнуліся да таго, каб разлажыць іх і, пасьля развалу, дзялілі зямлю паміж сабой на полосы. Так здарылася з калгасамі імя Сталіна, Чарвякова і інш. Амаль што ва ўсіх калгасах, што разлажыліся, адсутнічае згуртаванасьць і належная работа сярод беднаты і серадняцкай часткі вёскі.

Там, дзе ня было адкрытых выступленьняў кулацтва, яно вяло падпольную агітацыю супроць калектываў. Усе кулацкія хлусьні, угаворы і пагрозы рабілі часамі, пры адсутнасьці нашай работы, уплыў і на частку беднаты.

Пры самай бязьлітаснай клясавай барацьбе ў вёсцы на калгасны рух у раёне ня было зьвернута належнай увагі: нанава арганізаваныя калгасы не абслугоўваліся як з боку сельсаветаў, РВК, так і з боку акркалгассаюзу і АКРЗА. Уся работа заключалася ў арганізацыі калгасу, падпісаньні статуту і яго рэгістрацыі. *Наглядалася поўная адсутнасьць усякай работы па замацаваньні арганізаваных калгасаў.*

У дадатак да ўсяго гэтага—арганізаваныя ў мінулым годзе калгасы на працягу цэлага году ня былі земляўпарадкаваны. Ня дзіва, што за тэрмін, пры адсутнасьці ўсякай дапамогі, калгасы амаль што поўнасьцю разваліліся.

Акруговы саюз калгасаў таксама вельмі мала зьвяртаў увагі як на існуючыя, так і на нанава арганізаваныя калгасы Чырвонапольшчыны.

Бюро Чырвонапольскага райкому прапанавала фракцыі РВК і вясковым ячэйкам зьвярнуць належную ўвагу на ўзмацненьне існуючых калгасаў, асабліва тых, якія земляўпарадкаваны ў гэтым годзе.

Далейшая калектывізацыя раёну павінна пайсьці па лініі стварэньня буйных калгасаў, у зьвязку з чым намячаецца земляўпарадкаваць для гэтае мэты больш буйныя пасёлкі, да якіх прымацоўваюцца члены РВК, Райкому, з ускладаньнем на іх адказнасьці за правадзімую работу.

Супроць тых членаў партыі, якія будуць парушаць, або скрыўляць лінію калектыўнага будаўніцтва, або няўважліва адносіцца да справы калектывізацыі, будуць прыймацца рашучыя меры з боку дырэктыўных органаў раёну.

Партыйным-жа ячэйкам прапанавана зьвярнуць належную ўвагу на арганізацыю і згрунтаваньне беднаты і на правядзеньне належнай работы па растлумачэньню значнасьці і калектывізацыі з тым, каб бедната дала самы рашучы адпор кулацкім уплывам на вёсцы.

## Першы ўдар па кулаку.

Калгас „Новы шлях“ з'арганізаваўся ў гэтым годзе ў вёсцы Кажамякіна пры землеўпарадкаваньні 4-х сумежных вёсак (Кажамякіна, Унашава і інш).

Вёска Кажамякіна—заможная вёска. Беднаты там мала, усяго 6—8 сем'яў з агульнай колькасьці 32 двароў вёскі. Гэта бедната была заўсёды ў загоне, пад кулацкім уціскам. Вядома, што на агульных сходах вёскі беднаце ніколі не давалі гаварыць.

Кажамякіна была шляхотная вёска, у якой вялікім гонарам карысталіся былы член царскай дзяржаўнай думы, а таксама царкоўны стараста і іншыя „былыя“ людзі.

Калі каморнік сабраў калгасны актыў і рашуча паставіў пытаньне аб арганізацыі калгасу, кулакі сарвалі пасяджэньне і разыйшліся з пагрозай забіць усіх калгасьнікаў. Але пагрозы не дапамаглі. У калгас увайшлі сяляне з суседняй вёскі Унашава. Тады кулакі лавілі дзяцей гэтых калгасьнікаў і білі іх за тое, што іх бацькі ўступілі ў калгас.

*У хуткім часе кулакі ідуць на апошні крок, задаўшысь мэтай зьнішчыць самога каморніка.* У мінулым месяцы ноччу кулакі падпалілі хату, у якой жыў каморнік. Калі ён усхапіўся, дзьверы лізаў агонь, страха гарэла. Як толькі каморнік выскачыў у вакно—абваліўся дах. У агні згарэў сын гаспадара тэй кватэры, дзе жыў каморнік. На месца пажару тэрмінова выехалі старшыня РВК, сакратар Райкому, міліцыя. Справа была тэрмінова накіравана пракурору.

*У мэтах замацаваньня калгасу „Новы шлях“, наўкола якога вядзецца такая бязьлітасная клясавая барацьба, раённы камітэт пар-*

*ты прымацаваў да калгасу старшыню РВК для пастаяннага кіраўніцтва работай калгасу.* Для стварэньня ў калгасе эканамічнае базы— РВК перадаў яму ў карыстаньне смалакураны завод, перадае вапнавы млын, што будуецца і ў хуткім часе прыступае да размолу вапны. У далейшым—у калгасе мяркуецца пабудаваць цагельню.

14 жніўня ў вёсцы Кажамякіна было арганізавана *сьвята „першае калгаснае баразны“*. З суседняга калгасу па загаду РВК быў прывезены трактар. Калгасьнікі з свайго боку выставілі 4-х коняў з плугамі.



Смалакурзавод у калгасе „Новы Шлях“ Чырвонапольскага раёну Магілеўск. акр.

Першы раз у жыцьці вёскі Кажамякіна на яе палёх загучэў трактар, першы раз былі зьнішчаны спрадвечныя дзедаўскія палоскі.

**Усе заможныя сяляне вёскі і кулакі, як адзін, адсутнічалі.**

Здарылася тое, аб чым сказаў адзін з калгасьнікаў, батрак: „нашы кулакі з-за вялікае прыкрасьці паўцякалі ў Маластоўку, а тыя, што засталіся, пахавалі свае галавы ў падушкі, каб ня чуць ненавіснага ім трактарнага гуку... Але дарма, гэты гук пранікае праз зачыненыя вокны і насунутыя на вушы падушкі... Гэты гук кажа аб тым, што назаўсёды скончылася іх улада на вёсцы... Пры дапамозе партыі і савецкай улады калгас „Новы шлях“ павядзе батракоў і беднату вёскі да новага, лепшага жыцьця. Ня гледзячы на ўсе кулацкія пагрозы і выпады, ня гледзячы на падпал і чалавечыя ахвяры, „Новы Шлях“ пойдзе па новаму шляху калгаснага будаўніцтва, будаўніцтва культурнае сельскае гаспадаркі... Калгас „Новы шлях“ будзе мацнець і расьці“.

*Пасьля масавага развалу раду калгасаў у Чырвонапольскім раёне—замацаваньне калгасу „Чырвоны шлях“ зьяўляецца значнай перамогай на фронце клясавай барацьбы за калгаснае будаўніцтва на вёсцы...*

Ёсьць і яшчэ дасягненьні: замест двох дробных калгасаў „Чырвоная Ніва“ і „Пралетары“, што былі разваліліся, з'арганізаваўся новы калгас з 19 гаспадарак, калгас „Чырвоная Ніва“.

У радзе вёсак Чырвонапольшчыны вядзецца ўпартая работа па падрыхтоўцы насельніцтва да арганізацыі буйных калгасаў. Каб замацаваць пазыцыі, трэба ў дапамогу барацьбітом калгаснага фронту даслаць партыйныя і агранамічныя сілы.

**Клімаўшчына—цэнтр масавай калектывізацыі.**

У той час, калі ў Чырвонапольскім раёне наглядаліся выпадкі масавага распаду калгасаў, у суседнім Клімавіцкім раёне тэй-жа Магілеўскай акругі мы маем вялізарны разгарнуўшыйся калгасны рух, высунуўшы гэты раён у першыя рады сярод іншых раёнаў БССР па калектывізацыі.

*У гэтым раёне зараз калектывізіравана звыш 13 процантаў усёй зямельнай плошчы.* У гэтым раёне мы маем шэраг сельсаветаў, дзе праводзіцца сплашная калектывізацыя і ўжо знаходзіцца пад калгасамі ад 50 да 75% усей зямельнай плошчы і гаспадарак.

Так, у *Пуцімельскім* сельсавеце з 6 вёсак ахоплена калектывізацыяй 4 вёскі апроч вёсак Стайкі і Сабалёўка. У гэтым сельсавеце маецца 4 калгасы, у тым ліку буйны калгас *„Бальшавік“* па плошчы ў 1400 га., у які ўвайшло 145 сялянскіх гаспадарак з вёскі Недвезь.

*Студзенецкі* сельсавет мае 22 насялёных пункты і калектывізіравана каля 70⁰/₀ сваёй зямельнай плошчы. У гэтым сельсавеце арганізаван буйнейшы на Беларусі калгас *„Камунар Магілеўшчыны“*, на плошчы 4000 га, у які амаль цалкам увайшло насельніцтва 9 вёсак і пасёлкаў. З калектывізацыяй усяго сельсавета гэты гігант-калгас узрасьце да 6½ тысяч га.

*Дубровіцкі* сельсавет ужо зараз мае 2 буйных калгасы, з якіх 1-шы вядомы ўсёй Беларусі *„Ленінскі шлях“*, маючы 1800 га зямлі, а другі ў в. Жаркі—1000 га—калгас *„Ільліч“*, які мае пэрспэктывы для далейшага свайго ўзбуйненьня. Дубровіцкі сельсавет можна калектывізіраваць на ўсе 100%, так як там маецца вялікае імкненьне насельніцтва да калектывізацыі і моцная эканамічная база навокал „Ленінскага шляха“ і шэраг іншых, спрыяючых калектывізацыі, умоў.

Зараз у Клімавіцкім раёне, апроч пералічаных 4 буйных калгасаў арганізоўваецца шэраг новых буйных калгасаў. Так, у *Хатовіцкім* сельсавеце арганізован буйны калгас *Хатовічы* з 135 двароў, на плошчы 1200 га і яўрэйскі калгас з 35 сямей.

У *Лазовіцкім* сельсавеце ў в. Лазовічы арганізаван калгас з 50 гаспадарак на плошчы 700 га, які ў хуткім часе будзе ўзбуйнены да 1000 га.

Становішча калгаснага руху ў Клімавіцкім раёне наступнае: старых калгасаў, арганізаваных да 1928 г.—было 19. На працягу 1928 году было арганізавана 5 новых калгасаў і зьліллося ў больш буйныя калгасы 7 старых. Такім чынам на 1/I-1929 году па раёну налічвалась 17 калгасаў. Трэба адзначыць, што да гэтага году арганізоўваліс дробныя калгасы, з колькасьцю 8—12 двароў.

Наогул пад усімі 17 старымі калгасамі знаходзілась 2031 га зямельнай плошчы. Пад новымі калгасамі зараз лічыцца звыш 15000 га зямлі.

### Трэба замацаваць калгаснае будаўніцтва.

У 1930 годзе мяркуецца калектывізіраваць да 22—25% ад усёй плошчы раёну, дагнаўшы і перагнаўшы пяцігадовы плян. У канцы пяцігодкі павінна быць, як мінімум, калектывізіравана 50% раёну.

Сродкамі вытворчасьці да асеньняй пасеўкампаніі калгасы раёну амаль забясьпечаны за выключэньнем трактароў і складаных машын.

Для калгасаў раёну атрымана 11 вагонаў супэрфасфату і фасфарыту. Вапнаваньне амаль зорвана з-за спазьненьня пабудовы вапняных млыноў.

Атрымана 2 вагоны жыта 4-й рэпрадукцыі, якія пойдуць у гнездавым парадку ў „Ленінскі шлях“ і інш. буйныя калгасы.

Калгасы будуць абменьваць насельніцтву 15000 пуд. палепшанага жыта на звычайнае, праз семенаводнае таварыствы.

Зернаачышчальнымі машынамі калгасы амаль забясьпечаны.

*Зусім дрэнна з забясьпечаньнем буйных калгасаў раёну трактарамі.* Усяго ў раёне маецца 2 трактары—па аднаму ў „Ленінскім шляху“ і ў „Бальшавіку“. Між тым, як *зараз патрэбна для правядзеньня асеньняй пасеўкампаніі ў 6 буйных калгасах—як мінімум, яшчэ каля 10 трактароў,* а к вясеньняй пасеўкампаніі 1930 году раён трэба ўкамплектаваць трактарнай калёнай ня менш, як у 50—60 трактараў.

Адсутнасьць трактараў зрывае ня толькі выкананьне пляну асеньняй пасеўкампаніі ў буйных калгасаў, яна ставіць пад пагрозу само існаваньне гэтых буйных калгасаў і зрывае тэмп калектывізацыі раёна. Нікому не сакрэт, што раённыя дырэктыўныя органы прымушаны затрымліваць арганізацыю буйных калгасаў у раёне, ня гледзячы на кожнадзённыя заявы шэрагу буйных вёсак аб пераводзе іх на рэйкі калектывізацыі.

Каб не плясьціць у хвасьце калектывізацыі і ня радаваць правых ухілістых затрымкай калектыўнага руху ў Клімавіцкім і іншых раёнах Беларусі—трэба рашуча паставіць там, дзе належыць і каму належыць, пытаньне: „незабясьпека Беларусі неабходнай колькасьцю трактароў—гэта зрыў калектывізацыі на Беларусі.

С. К—ў.

---

# Індустрыялізацыя і электрыфікацыя калгасаў.

Складанай сыстэмай сельскай гаспадаркі зьяўляецца сыстэма індустрыялізацыі. Сутнасьць яе заключаецца ў тым, што сельска-гаспадарчая сыравіна павінна апрацоўвацца і пераапрацоўвацца ў самай с.-гасп. у продукт высокай рыначнай якасьці і кошту. Для гэтага трэ‘ скарыстаць на корму ўсе адкіды вытворчасьці, узьняўшы гэтым продукцыйнасьць жывёлаводзтва.

Гэтая сыстэма вымагае значную колькасьць сілавой энэргіі, як для руху апаратаў і машын, так і для працэсаў па апрацоўцы і пераапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны. Сілавая энэргія патрэбна ня толькі для прамысловых прадпрыемстваў, яна неабходна і для апрацоўкі зямлі, пасеваў і ўборкі ўраджаю; транспарт і той, у большай сваёй частцы, карыстаецца мэханічнай энэргіяй, а ня коньмі.

Як бачым, дык пры індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі, калі ня ўсяе, то большая частка працоўных працэсаў вытворчасьці карыстаецца мэханічнай сілавой энэргіяй.

Разглядаючы паасобныя працэсы ў сельскай гаспадарцы, да якіх прыстасоўваецца мэханічная энэргія, мы наглядаем раскіданасьць сілы, пачынаючы ад $^{1}/_{2}$ сілы неабходнай для саломарэзкі і да 12 сіл— для малацьбы.

Разнастайнасьць неабходнай мэханічнай энэргіі з аднаго боку, прыстасаваньне энэргіі ў розных пунктах, не дазваляючых карыстацца трансмісійнай перадачай з другога боку — выклікаюць неабходнасьць установкі электроматора, як машыны, якая можа даваць энэргію ў $^{1}/_{2}$ маш. сілы і да сотні конск. сіл. Калі-ж прыняць пад увагу, што электраэнэргія можа быць лёгка перададзена на вялікую адлегласьць, трэ' падкрэсьліць, што электраматор зьяўляецца істотным фактарам, які павялічвае сацыялістычную эканомію ў сельскай гаспадарцы і стварае найбольш спагадныя прадпасылкі для тэхнічнага і культурнага бытавога перавароту.



Апрацоўка малака на сэпаратары ў калгасе „Труд" Гомельскае акругі.

Укараненьне электрычнасьці ў сельскай гаспадарцы не заўсёды можа даць неабходны эфэкт. У гэтых адносінах трэ' стварыць адпаведную базу, дзе-б электраматор займаў, перад іншымі відамі электрычнай энэргіі, галоўнае месца. Гэта можа быць ажыцьцёўлена шляхам стварэньня сельска-гаспадарчых электракамбінатаў, якія і будуць зьяўляцца вышэйшай формай індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі. Стварэньне электракамбінатаў зьяўляецца адзінай мэтазгоднай формай с.-г. прамысловасьці ва ўмовах рэканструкцыі сельскай гаспадаркі на базе каляктывізацыі яе.

Аграрная перанаселенасьць Беларусі, зімняе беспрацоўе сялянства вельмі адбіваецца на эканоміцы краіны. Абхоп гэтай справы і правільнае яе разьвязаньне магчыма пры дапамозе калгаснага будаўніцтва.

Узаемаадносіны паміж горадам і вёскай, рабочым і селянінам, а значыцца і замацаваньне гаспадарчых форм сацыялістычнага будаўніцтва ў краіне, у значнай сваёй частцы разьвязваюцца іменна калгасным будаўніцтвам, з шырока разьвітымі электра-індустрыяльнымі прадпрыемствамі.

Асноўнай задачай, задачай нашага пяцігадовага пляну зьяўляецца ўстанаўленьне тэмпу і чарговасьці ў разьвіцьці паасобных галін сельска-гаспадарчай прамысловасьці і ўстанаўленьне адноснай вагі і разьвіцьця прамысловасьці дзяржаўнай, каапэрацыйнай, саўгаскай і калгаскай.

У нашых умовах прамысловасьць, якая базуецца на сельска-гаспадарчай сыравіне, будзе яшчэ доўга займаць галоўнае месца ў нашым экспорце.

Праблема таварных зносін з сусьветнай гаспадаркай разьвязваецца ў першую чаргу з разьвіцьцём сельска-гаспадарчых прамысловых галін. Разьвіцьцё вытворчых сіл сельскай гаспадаркі і яе ўвязку з сусьветнай гаспадаркай, нельга аддзяліць як ад прамысловасьці наогул, так і ад прамысловасьці, якая пераапрацоўвае прадукты сельскай гаспадаркі. Пасьпяховае разьвіцьцё калгасаў на базе с.-г. тэхнічных прадпрыемстваў адыгрывае вялікую ролю. Для таго, каб уявіць наколькі хутка разьвіваецца рост с.-г. прамысловых прадпрыемстваў у калгасах,—прыводзім ніжэй табліцу, з паказаньнем галоўных прамысловых галін, па якім павялічэньне будаўніцтва 1929-30 г. супроць 1928-29 г. па бульбянай прамысловасьці на 581,4 проц., пры агульным сярэднім росьце 102,6; па садова-гароднай на 381 проц., пры агульным сярэднім—75,4; па ільняной 186,4 проц., пры агульным сярэднім—111,7.

**Капітальныя ўкладаньні на індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі**

(у тысячах рублёў).

| Найменьне прамысловасьці | Саўгасы | | | Калгасы | | | С.-г. каапэрацыя | | | Іншыя | | | Усяго | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 28-29 г. | 29-30 г. | % роста | 28-29 г. | 29-30 г. | % роста | 28-29 г. | 29-30 г. | % роста | 28-29 г. | 29-30 г. | % роста | 28-29 г. | 29-30 г. | % роста |
| 1. Малочная прамысловасьць | 124 | 275 | 121,8 | — | 198 | — | 587 | 995 | 69,5 | 150 | 325 | 116,7 | 861 | 1793 | 108,2 |
| 2. Ільняная прамысловасьць | 262 | 276 | 5,3 | 22 | 63 | 186,4 | 220 | 728 | 230,9 | — | — | — | 504 | 1067 | 111,7 |
| 3. Садова-гародная прамысловасьць | 18 | 95 | 427,8 | 21 | 101 | 381,0 | 117 | 172 | 47,0 | 410 | 625 | 52,4 | 566 | 993 | 75,4 |
| 4. Бульбяная прамыслов. | 400 | 560 | 40,0 | 215 | 1465 | 581,4 | — | — | — | 941 | 1128 | 19,9 | 1556 | 3153 | 102,6 |

Такім чынам мы бачым, што ў сучасны момант мы маем калёсальны зрух у бок будаўніцтва індустрыяльных прадпрыемстваў у калгасах, на базе электраэнэргіі.

Пяцігадовы плян індустрыялізацыі і электрафікацыі сельскай гаспадаркі складзены з улікам ахопу ня толькі больш магутных калгасаў БССР, але прадугледжвае стварэньне шэрагу новых калгасаў. Гэтыя новыя калгасы ўзьнікнуць, бязумоўна, там, дзе фізычную працу селяніна заменіць машына і электраматор.

Індустрыялізацыя калгасаў зьяўляецца ня толькі неад‘емнай часткай калгаснага будаўніцтва, але больш таго, посьпех калактывізацыі будзе залежыць ад таго, наколькі моцна калгасны рух будзе зьвязаны з сельска-гаспадарчай індустрыялізацыяй і электрафікацыяй. Індустрыялізацыя сельскай гаспадаркі адзіны фактар, каля якога можа быць і павінна разьвівацца калгаснае будаўніцтва Беларусі.

Інжынэры **М. Матэрыкін** і **К. Вансецкі.**

---

# Гатункова-насеннаводная справа і калгасы.

Ураджай у значнай ступені залежыць ад якасьці насеньня. Пад якасьцю насеньня патрэбна разумець ня толькі яго ўсходжасьць, чыстату ад пустазельля і інш.—так званую тэхнічную якасьць, але і пароду насеньня—яго гатунак.

Тэхнічная якасьць насеньня атрымліваецца сартаваньнем і належным захаваньнем насеньня. Але часта забываюць пра гатунак (пароду) насеньня. Гэткае зьявішча бывае таму, што недаацэньваецца карысьць, якая атрымліваецца ад гатунковага насеньня, што гаспадарка стала не займацца гатунково-насеннаводнай справай. А пад час некаторыя і ня ведаюць, якую карысьць дае гатунковае насеньне. Трэба-ж заўважыць, што карысьць ад гатунку (пароды) насеньня вялікая. Вынікі дасьледчых установ па сортаспрабаваньню яскрава сьведчаць, што гатунковае насеньне, у параўнаньні з звычайным, дае значна большы ўраджай. Напрыклад, даныя дасьледчых установ па сортаспрабаваньню ў Беларусі сьведчаць, што гатунковае насеньне дае прыбаўку ўраджаю, у параўнаньні з мясцовым насеньнем: па ячменю—14,6 проц. (зерня) і 24,9 проц. саломы, аўса 23,8 проц. зерня і 10,0 проц. саломы, жыта—44,8 проц. зерня і 14,5 проц. саломы. Гэткія і нават большыя павялічэньні ўраджаю атрымліваюцца і ў інш. дасьледчых установах. Нямеччына, напрыклад, лічыць, што дзякуючы гатунковаму насеньню, ураджай іх палёў павялічыўся на 30 проц.

У сучасны момант, у час уздыму сацыялістычнага будаўніцтва, мы павінны цалкам скарыстоўваць усё тое, што памагае павялічэньню ўраджайнасьці.

У парадку кіраўніцтва па сацыялістычнаму будаўніцтву—уздыму і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, урадам ня толькі ацэнена карысьць ад гатунковай насеннаводнай справы, але даручана земорганам ужыць усе мерапрыемствы, каб на працягу 5-ці год забясьпечыць насельніцтва гатунковым і палепшаным насеньнем. Гэта заданьне ўраду вельмі адказнае і патрабуе ад усіх вялікай напружанасьці ў працы.

Цяжкасьць выкананьня гэтага заданьня ў тым, што да гэтага часу на абшарах Беларусі стала гатунково-насеннаводнай справай амаль не займаліся. Завезеныя ў 1925 г. некалькі дзесяткаў тысяч пудоў гатунковага насеньня ячменю і аўсу—за адсутнасьцю належнай арганізацыйнай насеннаводнай працы—далі вельмі нязначную карысьць.

У 1927-28 г. і ў гэтым годзе гатунково-насеннаводная справа трохі палепшана, але яшчэ і зараз са ўсёй адказнасьцю ставіцца гэтае пытаньне для вырашэньня.

Галоўнымі пытаньнямі ў гатунково-насеннаводнай справе зьяўляецца:

1. Вывучэньне на абшарах Беларусі таго насеньня, якое ёсьць.
2. Вывядзеньне лепшых гатункаў і выбар іх, прыстасавана да раёнаў.
3. Арганізацыя размнажэньня гатунковага насеньня.
4. Распаўсюджваньне гатунковага насеньня сярод насельніцтва.
5. Пэрыядычнае аднаўленьне размножваемага і распаўсюджваемага насеньня.
6. Утварэньне лепшых умоў для скарыстаньня і захоўваньня гатунковага насеньня.
7. Арганізацыя сталай кантрольна-насеннаводнай справы.

З пералічаных пытаньняў гатунково-насеннаводнай справы па таму насеньню, якое ўжо ёсьць, асобна вузкім месцам зьяўляецца арганізацыя масавага размнажэньня гатунковага насеньня. Для вырашэньня гэтага пытаньня і, наогул, пытаньня аб гатунковым насеньні, Эканом. Нарада Саўнаркому Беларусі, на падставе рашэньня СНК СССР ад 15/XII-28 г.

і БССР ад 20/XII-28 г., сваёй пастановай ад 29/IV-28 г. усклала на Народны Камісарыят Земляробства справу арганізацыі натуральнага дзяржаўнага гатунковага насеннага фонду. Да практычнага ажыцьцяўленьня арганізацыі натуральнага сартовага фонду НКЗ прыцягнуў:

1) дасьледчыя ўстановы, якія павінны займацца вывучэньнем і вырашчваньнем гатунковага насеньня.

2) асобныя гаспадаркі Белсельтрэсту, якія стала прыстасаваны да працы па размнажэньню гатунковага насеньня—так зван. Дзярж. насенкультуры;

3) саўгасы Белсельтрэсту і

4) гаспадаркі каапэраванага насельніцтва (калгасы, насеннаводныя, пасёлкавыя і інш. аб'яднаньні).



Перад асеньняй сяўбой у калгасах. Пратручваньне насеньня медным купаросам.

Размнажэньне гатунковага насеньня ў паказаных гаспадарках павінна мець сталы вытворчы характар працы, з поўным забясьпечаньнем патрэбных агрыкультурна-тэхнічных мерапрыемстваў, якія забясьпечаць гатунковасьць насеньня і павялічаць яго прадукцыю. Гэта дасьць магчымасьць штогодна перадаваць насельніцтву, у парадку насеннаснабжэньня, патрэбную колькасьць насеньня. Згодна пэрспэкцыйнага пляну НКЗ, к канцу 5-цігодкі прадугледжваецца наступны ахват працы па арганізацыі размнажэньня гатунковага насеньня (плошчы ў гект. і прадукцыя ў цэнтн.):

| Назва гаспадарак, якія павінны займацца размнажэньнем гатунковага насеньня | Плошча іх у гект. | Прадукцыя гатунковага насеньня ў цэнтн. |
|---|---|---|
| Дасьледчыя ўстановы . . | 885 | 12451,5 |
| Дзяржнасенкультура . . . | 4786 | 79627 |
| Саўгасы Белсельтрэсту . . | 16813 | 418255 |
| Гаспадаркі каапэраванага насельніцтва (галоўным чынам калгасы) . . . . | 154018 | 3307053 |

Адсюль відаць, што галоўную ролю па размнажэньню гатунковага насеньня павінны адыграць гаспадаркі каапэраванага насельніцтва, якія займаюць 87 проц. (154.018 гект.) плошчы і 86,5 проц. (3.307.053 гект.) ад прадукцыі насеньня ўсёй сыстэмы гаспадарак па размнажэньню гатунковага насеньня.

Калі-ж заўважыць, што асноўным асяродкам гаспадарак каапэраванага насельніцтва па размнажэньню гатунковага насеньня будуць зьяўляцца калгасы, як гаспадаркі больш спрыяючыя гатункова-насеннаводнай справе, дык для нас зразумела стане тая роля, якую калгасы павінны адыграць у гатункова-насеннаводнай справе, а ў зьвязку з гэтым і ў садзейнічаньні ўздыму сельскай гаспадаркі наогул.

Гэтая роля калгасаў надзвычайна важная і пачэсная. Але яна патрабуе і надзвычайна напружанай і ўважлівай працы як з боку паасобнага калгаса, так і ўсёй калгаснай сыстэмы.

У бягучую асеньнюю пасеўную кампанію калгасы ў сваёй масе ў першую чаргу прыступаюць да гатункова-насеннаводнай працы па зімовых культурах. НКЗ з саўгасаў Белсельтрэсту, Дзяржнасенфонду РСФСР і інш. крыніц перадае сыстэме с.-г. каапэрацыі больш 15 тыс. цэнтн. чыстага гатунковага насеньня жыта для размнажэньня. Гэта асеньняя пасеўная кампанія для значнай часткі калгасаў зьяўляецца экзамінам у працы па гатунковаму насеннаводзтву.

Першы пачын плянавай здачы ў гэтым годзе калгасамі Мазыршчыны вырашчанага на сваіх палёх гатунковага жыта з досыць вялікім працантам гатунковасьці, а таксама надзвычайная актыўнасьць калгасьнікаў у перабудове сельскай гаспадаркі і ўзбуйненьні сваіх гаспадарак,— зьяўляецца лепшым залогам таго, што задачу па размнажэньню гатунковага насеньня, калгасы вырашаць без заган.

Патрэбна ім у гэтай вялізарнай працы дапамагчы. Кожны аграпрацаўнік і асабліва працаўнікі па насеннаводзтву і кантрольна-насеннай справе павінны бліжэй стаць да калгасаў і сваімі ведамі, энтузыязмам дапамагчы вялікай калгаснай справе.

Аграном **Бялоў**.

---

# Калгас „Новы Мір“.

Яўрэйскі калгас „Новы Мір“ арганізаваўся ў мінулым 1928 годзе. Склаўся ён з 5 бядняцкіх сем'яў, якія раней земляробствам ніколі не займаліся, а жылі на заробкі ад шыцьця ботаў і вопраткі, працы ў кузьні і інш. Адзін толькі сябра каляктыву ў старыя часы быў арандатарам. Адна сям'я ўжо выйшла з каляктыву, засталося чатыры.

Каляктыў атрымаў 43 гектары зямлі з-пад нядаўна высечанага лесу. Трэ' было працу пачынаць з самага пачатку: выкарчаваць пні, узьняць цаліну, засеяць і пабудаваць самыя неабходныя будынкі, каб было дзе жыць самім і жывёле. На будоўлю каляктыў атрымаў 3.300 руб. крэдыту і 80 руб. беззваротнай пазыкі на раскарчоўку пнёў. З гэтымі сродкамі ды паявымі ўзносамі ў суме 850 руб. (па 170 руб.) каляктыў і распачаў сваю працу.

Каляктыў ужо пабудаваў 3 хаты, гумно, хлеў і студню. Каляктыў мае самы неабходны с.-г. інвэнтар—плугі, бароны, калёсы і інш. Працаваць ужо можна—кажуць калгасьнікі.

У мінулым годзе каляктыў змог засеяць жытам 10 гект. Ураджай досыць добры. Каля 20 гект. засеяна аўсом, бульбай, лубінам; каля 10 гект. яшчэ не раскарчована і нераспахана. Зямля не разьбіта на

полі, не ўстаноўлены пладазьмен. Фактычна зараз існуе нібы двух-палёўка: пасьля зьняцьця ярыны каляктыўцы думаюць сеяць жыта, а жытняе поле рыхтуюцца засеяць ярыной. Агранамічнага кіраўніцтва калгасам не адчуваецца. А каляктывістыя, ранейшыя шаўцы, кавалі раней на зямлі не працавалі—весьці гаспадарку належным чынам ня ўмеюць. Вучымся яшчэ,—кажуць яны. І пэўна, скора навучацца. Але адсутнасьць своечасовай аградапамогі можа ня толькі значна затрымаць разьвіцьцё гаспадаркі калгасу, але і пашкодзіць разьвіцьцю калгаснага руху ў раёне, бо ваколічнае насельніцтва яшчэ падазрона глядзіць на каляктыўныя гаспадаркі, якія часам і распадаюцца. Для пераканаьньня



Калгаснае будаўніцтва.

сялянства ў карысьці каляктыўнае гаспадаркі, патрэбна было-б як найлепш паставіць гаспадарку маладога яўрэйскага калгасу. А між тым наглядаюцца такія зьявішчы: ваколічныя вёскі ўжываюць радковы засеў гародніны, а ў калгасе—гародніна пасеяна раскідным спосабам; няма ў калгасе і караньплодаў для жывёлы.

Каляктыў мог-бы ўсё-ж хутка разьвіцца, калі-б там належным чынам арганізаваць працу. Але, на вялікі жаль, у каляктыве няма ладу. Сябры каляктыву часамі спрачаюцца. Адны сябры ўпікаюць другіх у няўменьні працаваць і інш. Але гэтага мала. У каляктыве жывуць і працуюць ня ўсе члены, а толькі мужчыны (па аднаму ад сям'і). Усе іншыя члены сем'яў жывуць у Барысаве або ў іншых мясцох. Гэта ненармальна, бо ў такім выпадку каляктыўная гаспадарка зьяўляецца нейкаю падсобнаю гаспадаркаю для іншых індывідуальных гаспадарак, у якія будуць паступаць прадукты сельскай гаспадаркі каляктыву, што можа прывесьці да заняпаду калгасу. Калгас-жа можа разьвівацца і мацнець толькі ў тым выпадку, калі тут будуць праца-

ваць усе члены каляктыву, калі яны будуць зацікаўлены каляктыўнай гаспадаркай і клапаціцца аб яе ўзмацненьні. Практыка паказала, што ў тых выпадках, калі члены калгасу, апрача каляктыўнае гаспадаркі, маюць гаспадаркі індывідуальныя, калгасы або зусім не разьвіваюцца, або нават і гінуць, бо частка прыбытку з калгасаў уплывае ў індывідуальныя гаспадаркі членаў калгасаў.

Сябры каляктыву не пазбаўлены яшчэ рэлігійных забабонаў,—некаторыя на сьвяты ходзяць на 2-3 дні ў Барысаў, сьвіней ня трымаюць.

У каляктыў хочуць уступіць некаторыя сем'і беларусоў, але калектыўцы ўсё яшчэ разважаюць, ці добра гэта будзе.

Умовы для разьвіцьця калгасу ёсьць. Першыя моманты будаўніцтва гаспадаркі пройдзены, хаця і з цяжкасьцямі, з памылкамі. У далейшым трэба дапамога з боку партарганізацыі ў зжыцьці індывідуалізму і наладжваньня каляктыўнага жыцьця, і ў значна большай меры, чым да гэтага часу, патрэбна аградапамога. Трэба, каб калгас уцягнуў у штодзенную працу ўсіх сяброў каляктыву, якія да гэтага часу мелі нязначнае дачыненьне да калгасу. **В. Самцэвіч.**

---

# Каляктыўная лясная гаспадарка ў лясох мясцовага значэньня.

Лес—наша галоўнае багацьце.

Нашай савецкай уладай у лесе вядзецца плянавая лясная гаспадарка, мэтай якой зьяўляецца:

а) сталасьць і бесьперапыннасьць карыстаньня лесам,

б) поўная забясьпечанасьць прамысловасьці і насельніцтва драўнінай,

в) палепшаньне складу і стану лясоў,

г) поўнае і найбольшае здабываньне прыбыткаў ад лесу.

Нашы лясы складаюцца з лясоў дзяржаўнага і лясоў мясцовага значэньня, а ад гэтага і форма самае гаспадаркі ў іх розная. У лясох дзяржаўнага значэньня гаспадарчай адзінкай у лесе зьяўляецца лясьніцтва, а ў лясох мясцовага значэньня—аб'яднаньне лесакарыстальнікаў на грунце самадзейнасьці.

З разьвіцьцём усяе нашае народнае гаспадаркі ў напрамку індустрыялізацыі, інтэнсіфікацыі і каляктывізацыі сельскае гаспадаркі—перад лясной гаспадаркай паўстала пытаньне грунтоўнай перабудовы яе на вытворчых пачатках. Саўпала неабходнасьць аб'яднаньня ўсіх лесагаспадарчых мерапрыемстваў у лесе з рэарганізацыяй нізавых гаспадарчых адзінак—лясьніцтв у буйныя савецкія лясныя фабрыкі—лесгасы, што ўжо ажыцьцёўлена на Украіне і часткова ў РСФСР.

Што датычыцца лясоў мясцовага значэньня, якія зьяўляюцца апорай сялянскае гаспадаркі, то ў сучасны момант становішча іх ня зусім здавальняючае. Лесакарыстальнікі і да гэтага часу яшчэ не ўразумелі сабе сутнасьці перадачы гэтых лясоў.

Трэба памятаць, што:

а) лясы перададзены насельніцтву для далейшага задавальненьня патрэб сялянскае гаспадаркі ў драўніне.

б) набліжэньня і ўцягненьня насельніцтва да справы вядзеньня лясной гаспадаркі і

в) зьнішчэньня праспалосіцы ўладаньняў, якая шкодна адбіваецца на вядзеньні сельскае і лясное гаспадаркі.

Такім чынам лясы мясцовага значэньня перададзены насельніцтву не для зьнішчэньня іх, а для вядзеньня ў іх сталае лясной гаспадаркі. На вялікі жаль у большасьці сяляне-лесакарыстальнікі драпежніцкі гаспадараць у лясох, не захоўваюць іх ад самачынных высечак і амаль-што зусім не лесааднаўляюць непакрытыя лесам плошчы—высечкі, прагаліны, пажарышчы і пяскі.

У мэтах захаваньня лясоў і лепшай арганізацыі гаспадаркі ў іх—Урадам БССР выдана новае Палажэньне аб лясох мясцовага значэньня (надрук. у газэце „Савецкая Беларусь“ № 125 за 5 чэрвеня 1929 г.).



Лес мясцовага значэньня. (Буйны калгас „Камунар“, Магілеўшчына).

Лясы мясцовага значэньня зьяўляюцца часткай адзінага дзяржаўнага ляснога фонду з падпарадкаваньнем іх сельскім саветам пад агульным кіраўніцтвам Райвыканкомаў (§ 11 Палажэньня). Усе асноўныя пытаньні гаспадараньня ў лясох мясцовага значэньня, як ахова лесу, карыстаньне драўнінай, лесакультурныя мерапрыемствы, устанаўленьне такс і каштарысаў—вырашаюцца агульнымі сходамі лесакарыстальнікаў, з зацьверджаньнем іх у С./Савеце і правядзеньнем у жыцьцё лесагаспадарчымі камісіямі (§§ 22—23).

Для аховы лясоў мясцовага значэньня наймаюцца за плату аб'яднаньнямі лесакарыстальнікаў, альбо назначаюцца лясьнікі, з зацьверджаньнем іх С./Саветам, якія ў галіне аховы і нагляду за даручанымі ім вучасткамі лесу знаходзяцца ў аднальковых правох з лясной вартай дзяржлясоў (§§ 31—32) [1]). Савецкая ўлада, перадаўшы значную частку лясоў насельніцтву, рашуча патрабуе ад яго правільнага вядзеньня гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня ў мэтах забясьпечаньня сталасьці карыстаньня і палепшаньня стану лясоў паводле пляну лесаўпарадкаваньня (§ 7). Карыстаньне драўнінай робіцца па штогодняму

---

1) Тут, як і далей, §§ азначаюць Палажэньне Ураду.

прыросту лесу—на адведзеных у натуры для гэтага дзялянках, прычым высечаныя плошчы, якія не аблясіліся натуральна, павінны быць аблесены штучна пасевам ці пасадкай (§§ 9—30).

Лясы мясцовага значэньня не падлягаюць падзелу ні па дварох, ні па едаках, ні па ліку зямлі, а наадварот—у мэтах рацыянальнай арганізацыі лясной гаспадаркі дапускаецца злучэньне некалькіх дач у адно аб'яднаньне ў межах некалькіх вёсак, С./ Савету ці раёну (§§ 4—8).

Ахова лесу і лесакультурныя працы патрабуюць грашовых сродкаў, адсутнасьць якіх перашкаджае правільнаму вядзеньню лясной гаспадаркі, а ў некаторых выпадках прыводзіць да поўнага зьнішчэньня лясоў. У мэтах упарадкаваньня гэтае справы трэба вышукаць крыніцы сродкаў на гаспадарчыя мерапрыемствы ў лясох мясцовага значэньня. Сродкі можна скласьці ў першую чаргу з грашовых сум, атрымоўваемых ад продажу драўніны па таксе і грашовых сум падворнага абкладаньня, калі гэта па становішчу леса зьявіцца патрэбным. Выдаткаваньне гэтых сродкаў робіцца выключна на лесагаспадарчыя мерапрыемствы (ахова лесу, лесакультуры і ўпарадкаваньне) у лясох мясцовага значэньня (§§ 18—25).

Аб'яднаньне лесакарыстальнікаў праз лесагаспадарчую камісію робіць вучот лясоў і ўсіх гаспадарчых мерапрыемстваў у іх (па лесакультурным працам, разьмеркаваньню драўніны, лесапарушэньню) па адпаведным формам, згодна выдадзенай на гэта НКЗБ і РСІ інструкцыі (§ 24).

Лесакарыстальнікі адказваюць за лясы, пераданыя ў іх карыстаньне. Яны павінны рашуча кіравацца Палажэньнем, Інструкцыямі і іншымі ўрадавымі пастановамі аб гэтых лясох, маючы на ўвазе, што вінаватыя будуць прыцягвацца да судовай адказнасьці (§§ 28, 33—34), а іх вучасткі лесу могуць быць пастановай Акрвыканкому, па прадстаўленьню РВК, адабраны і пераданы іншым лесакарыстальнікам ці залічаны ў дзяржлесдачу (§§ 5—6).

Атрымаўшы лясы ў працоўнае карыстаньне, лесакарыстальнікі павінны ведаць, што перадача лясоў насельніцтву ня ёсьць зварот гэтага лесу былым іх уласьнікам, як гэта некаторыя з сялян разумеюць, бо:

1) лясы мясцовага значэньня перададзены сялянам ня толькі былыя іх, а і другія, якія раней не належалі ім;

2) лясы перадаваліся ня толькі былым іх карыстацелям, а цэлым грамадам і грамадзянам, у якіх раней зусім ня было лесу;

3) лясы перадаваліся насельніцтву не абавязкова ў тэй плошчы, якая была ў іх раней, а ў плошчы саразьмерна іх запатрабаваньнем і

4) сяляне атрымалі лес на выразных умовах, якія дакладна паказваюць плян вядзеньня гаспадаркі і ўскладваюць на іх абавязак аховы лесу ад парубак, пажараў і іншых пашкоджаньняў.

Пералічэньне паасобных лясных кавалкаў у пахаць і іншы від карыстаньня ў лясох мясцовага значэньня па асобным пастановам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР можа быць дазволена:

а) для дзяржаўных патрэб (пабудовы чыгунак, шляхаў, лягераў і інш. дзяржаўных будынкаў) і

б) пры пералічэньні гэтае плошчы ў земфонд у зьвязку з лесаўпарадкаваньнем альбо земляўпарадкаваньнем (§ 2 Палаж.).

Праца па выдзяленьню лясоў мясцовага значэньня скончана; у далейшым выдзяленьне такіх плошчаў будзе праходзіць толькі ў напрамку ўпарадачэньня меж і стану лясных дач у парадку лесаўпарадкаваньня (Інструкцыя НКЗБ—1927 г. па выдзяленьню лясоў мясцовага значэньня).

Лесатэхнічны кантроль, нагляд за выкананьнем пляну гаспадаркі і дагавору, а таксама рукаводзтва і інструктаваньне па лесагаспадарчым пытаньням, ускладаюцца на лясьніцтвы, у раёне якіх знаходзяцца лясы мясцовага значэньня (§ 27).

Дзеля лепшага абслугоўваньня лясоў мясцовага значэньня, тэхнічнай дапамогі і інструктаваньня лесакарыстальнікаў, за кошт дзяржавы ўведзены штат Акруговых лесаводаў па лясох мясцовага значэньня.



Хваёвы бор з падросткам, Случчына.

Райвыканкомам і аб'яднаньням лесакарыстальнікаў зараз трэба імкнуцца да аб'яднаньня разрозьненых паасобных таварystваў лесакарыстальнікаў у больш буйныя калектывы і ўстанаўленьня за кошт мясцовага бюджэту і сродкаў аб'яднаньняў раённых спэцыялістых—лесаводаў.

Чарговай задачай нашага дню ў галіне працы па лясох мясцовага значэньня зьяўляецца—аб'яднаньне лесакарыстальнікаў у таварыствы і стварэньне сялянскіх лясных калектываў.

Сучасная форма лесагаспадараньня ў лясох мясцовага значэньня ў нас па Беларусі розная, так—разам з аб'яднаньнем лесакарыстальнікаў, мы маем аднаасабовых лесакарыстальнікаў, а таксама і аб'яднаньні ў маштабе С./Саветаў.

Прыкладам апошняму можа служыць таварыства лясоў мясцовага значэньня Астрашыцка-Гарадзецкага раёну, Менскае акругі, дзе гэтыя лясы аб'яднаны ў межах С./Саветаў і раёну.

Такая аб'яднаная форма лесагаспадараньня значна пелепшыла стан лясоў мясцовага значэньня раёну. Самачынныя парубкі значна скараціліся, бо лес ахоўваецца сталай платнай лясной вартай, якая складаецца з лясьнікоў і аб'езчыкаў. Насельніцтва лепш забясьпечвае свае патрэбы драўнінай, а бедната—у першую чаргу атрымоўвае драўніну,

дзеля якой (беднаты) прадугледжан ільготны фонд. Высечка лесу вядзецца паводле плянаў лесаўпарадкаваньня, а высечаныя плошчы як натуральна, гэтак і штучна лесааднаўляюцца—праз пасеў і пасадкі, бо акрамя лясной варты, там маюцца яшчэ аб'езчыкі і спэцыяльны працаўнік. Набыты некаторыя лесакультурныя прылады і інструманты. Аб'яднаньне лесакарыстальнікаў мае свой бюджэт прыбыткаў і выдаткаў у некалькі тысяч рублёў.

Па прыкладу вышэйпамянёнай структуры лясоў мясцовага значэньня будуюць сваю працу і іншыя раёны Меншчыны. Трэба гэта зрабіць усім акругам нашае Беларусі.

Практыка пабудовы лясных калятываў у некаторых паўночнаўсходніх раёнах РСФСР і на Урале мела месца з 1925 г. (Усінскі лясны каляктыў Уралвобласьці, Чарноўскі каляктыў Пермскай вобласьці і інш.), якія цалкам апраўдалі сваё існаваньне, а абсьледваньнем РСІ РСФСР калектывізацыя лясоў атрымала ўхвалу.

У ўмовах Беларусі, пры наяўнасьці ў большасьці дробных кавалкаў лесу,—нам трэба рабіць аб'яднаньне лесакарыстальнікаў у межах некалькі вёсак і С/Саветаў. Такія аб'яднаньні дадуць магчымасьць лепшай арганізацыі гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня, спыняць драпежніцкія вырубкі і дапамогуць лесааднаўленьню высякаемых плошчаў.

Зараз усёй грамадзкасьці, камсамолу, спэцыялістым, настаўніцтву і перадавому сялянству вёскі трэба безадкладна мабілізаваць сваю ўвагу навокал арганізацыі лясной гаспадаркі ў лясох мясцовага значэньня, паводле новага палажэньня аб гэтых лясох.

Трэба на мясцох праводзіць растлумачальную працу па аб'яднаньню раскіданых таварыстваў у больш буйныя аб'яднаньні і лясныя каляктывы,—і стварэньню грашовых фондаў на лесагаспадарчыя мерапрыемствы (лесакультуры, аховы лесу і кіраўніцтва), за кошт аб'яднаньняў і мясцовага бюджэту.

Сяляне-лесакарыстальнікі! Вядзеце ў лесе плянавую лясную гаспадарку паводле пляну ўпарадкаваньня і палажэньня аб лясох.

Захоўвайце лес ад самачынных высечак, пашкоджаньняў яго жывёлай і інш. Даглядайце за лесам, і толькі тады мы, а таксама і дзеці нашыя будуць мець драўніну для будынкаў, апалу. Е. Міхасенка.

---

# Чарговыя задачы вэтэрынарыі ў сацыялістычным і абагуленым сэктары с-гаспадаркі.

У разьвіцьцё дырэктыў партыі і ўлады ў пляне індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі вялізарная роля і значэньне адводзіцца савецкім і каляктыўным гаспадаркам. Апошнія павінны стаць узорам індустрыяльнай гаспадаркі, высоўваючы навыкі культурнага гаспадараньня і для акаляючага іх сялянства. Гэтая дырэктыва ставіць перад арганізацыямі соцсэктару наступную задачу: па-першае, у мэтах забясьпечаньня рынку і прамысловасьці сыравінай і павялічэньня экспарту апошняй—найбольш узьняць таварную частку прадукцыі гэтых гаспадарак і, па-другое, ператварыць гэтыя гаспадаркі ў арганізацыйныя і культурныя цэнтры агравытворчай дапамогі насельніцтву.

Вэтэрынарнае абслугоўваньне гэтых гаспадарак павінна ісьці па лініі паказаных установак, г. зн. садзейнічаць павялічэньню іх прыбытку і падняцьцю таварнасьці, шляхам перасьцярогі і ліквідацыі пошасных хвароб і стварэньня найбольш спрыяючых умоў для здаровага ўтрыманьня жывёлы.

Вэтэрынарнае становішча сучасных гаспадарак соц. і абагул. сэктару вымагае значнага вэтэрынарнага ўплыву. Так, сьмяротнасьць сьвіней ад заразьлівых хвароб (асабліва маладняку) дасягае да 60%, захворваньне сухотамі—да 40—50%, а ў паасобных гаспадарках і да 100% і г. д. Прыведзены процант тут значна вышэй, чым у індывідуальных гаспадарках. Вось так уяўляецца становішча гаспадарак соцсэктару. Тут мы маем адзін з слабых вучасткаў агульнага фронту, які патрабуе найбольшай увагі і ўзмацненьня. Недахопы вэтсанітарнага парадку ад пачатку да канца праходзяць праз вытворчасьць гэтых гаспадарак. Асноўным недахопам у гэтым зьяўляецца адсутнасьць ўвязкі вэтсанітарных мерапрыемстваў з эканамічнымі пэрспэктывамі гаспадарак. Пытаньне вэтабслугоўваньня калгасаў павінна абгаварвацца ў напрамку зьнішчэньня гэтых недахопаў, папераджаючы іх узьнікненьне.

Самая сыстэма вэтабслугоўваньня павінна складацца не з паасобных выпадковых момантаў вэтэрынарнага ўплыву, а павінна быць



Прывод вытворніка жарабца колгасу для вэтэрынарнаму агляду.

пабудавана па вызначанаму пляну, увязанаму з агульным плянам гаспадаркі. Плян вэтэрынарных мерапрыемстваў павінен прадугледзіць усе этапы разьвіцьця гаспадаркі і ўсе мажлівыя труднасьці эканамічнага і вэтэрынарнага парадку. У аснову гэтага пляну павінен быць пакладзены ўдзел вэтэрынарных фактараў ува ўсіх галінах вытворчасьці гаспадаркі, якія маюць сувязь з пытаньнямі жывёлагадоўлі. Для вырашэньня гэтай задачы, кожнай гаспадарцы павінны быць прад'яўлены наступныя вэтэрынарныя вымаганьні, па ўсіх разьдзелах жывёлагадоўчай работы, як разьвядзеньне жывёлы і канчаючы момантамі атрыманьня добраякаснай ува ўсіх адносінах жывёлагадоўчай прадукцыі. У паказаных вымаганьнях павінны знайсьці адбітак усе найбольш важныя моманты існуючага законадаўства, рэглямантуючыя ўсе галіны вэтэрынарнай работы.

**Як-жа павінна быць арганізавана вэтабслугоўваньне гаспадарак соц. і абагул. сэктару.**

Вось у кароткіх словах задачы вэтэрынарыі ў соц. і абагул. сэктару сельскай гаспадаркі. Самае абслугоўваньне гэтых гаспадарак павінна вытварацца як праз спэцыяльную вэтэрынарную сетку, так і праз існуючую ўжо вучастковую.

Асноўнымі матывамі да арганізацыі ў гаспадарках сацыялістычнага і абагуленага сэктару спэцыяльнай сеткі зьяўляюцца, з аднаго боку, пастаўленыя задачы найлепшага абслугоўваньня гэтых гаспадарак з высока-прадукцыйнай жывёлай, якая вымагае сталага і няўхільнага назіраньня і, з другога—недастатковае разьвіцьцё вучастковай сеткі, якая ня можа забясьпечыць усе патрэбы гэтых гаспадарак.

Паказанае вэтабслугоўваньне спэцыяльнай вэтэрынарнай сеткаю, за недахопам вэтпэрсаналу, адначасова будзе вытварацца і вучастковай сеткай, прычым абслугоўваньне вучастковай сеткай павінна ісьці ў парадку першачарговасьці соцсэктару.

Усе мерапрыемствы, правадзімыя спэцыяльнай сеткай у гаспадарках соц. сэктару, павінны ажыцьцяўляцца ў адпаведнасьці з прынцыпам адзінства вэтарганізацыі, г. зн. пад адзіным плянавым кіраўніцтвам і адзіным кантролем зямельных органаў.

Фінансаваньне вэтмерапрыемстваў у соцсэктары павінен ісьці за рахунак паасобных дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый па пляну і ўстаноўленым зямельнымі органамі. Фінансавы каштарыс па выдаткам на ўтрыманьне вэтпэрсаналу, на будаўніцтва і вэтснабжэньне на 1929/30 год, вылічаны арыентыровачна ў 60.000 рублёў.

Заканчываючы выкладаньне чарговых задач вэтэрынарыі ў гаспадарках соц. і абагулен. сэктару, трэба адзначыць, што на гэтым шляху ёсьць яшчэ шмат цяжкасьцяй, як у сэнсе недахопу вэтурачэбнага пэрсаналу, падрыхтоўкі яго і г. д. Але трэ' быць упэўненым, што адданасьць справе сацыялістычнага будаўніцтва і настойлівасьць вэтспэцыялістых апраўдаюць сябе ў вырашэньні гэтай складанай праблемы.

Вэтэрынарны доктар **М. Жарын.**

---



# Палявая гаспадарка

## Сьвірнёвы даўганосік і барацьба з ім.

Сьвірнёвы даўганосік—маленькі жучок, які жыве ў зерні ў сьвірнях. Многія сяляне ведаюць гэтага жучка, ведаюць, што ён псуе і забруджае зерня, але лічаць, што ад яго ніяк немагчыма абараніць свае сьвірны. Існуе ў сялян некаторых мясцовасьцяй нават такое павер'е, што ён зьяўляецца па жаданьню дурных людзей, пасылаецца варажбою. Некаторыя лічаць, што жучок завозіцца з поля. Гэта няпраўда, жучок жыве толькі ў закрытых памяшканьнях і ад яго магчыма абараніцца. Што-ж датычыцца таго як ён зьяўляецца, то як-бы чалавек не жадаў, каб у суседа зьявіліся доўганосікі, іх там ня будзе, калі гэты сусед не завязе іх разам з зернем з іншага сьвірня, дзе доўганосік ёсьць.

Сьвірнёвы жучок ня мае крыльляў і лятаць ня можа, але бегае шыбка. Галоўка жучка выцягнута ў выглядзе хабатка, таму яго і называюць доўганосікам. На канцы хабатка ў яго ёсьць моцныя сківіцы. Гэтымі сківіцамі самка прагрызае ў зерні дзірку, кладзе ў гэту дзірку свае яечкі і закрывае яе пробачкай з мукі. Кожная самка, у сярэднім кладзе 150 яечак, гэта значыць папсуе 150 зернят. З кожнага яечка праз 10—12 дзён выходзіць чарвячок—гэта вусень (лічынка) жучка. Яна жыве ў зерні, выядае яго сярэдзіну і застаўляе там свой кал, які шкодны для страўніка чалавека.

Вусень акукляецца, а з кукалкі выходзіць дарослы жучок, які прагрызвае ў зерні дзірку, праз якую і выходзіць. Ад часу, калі кладзецца яечка да выхаду жучка, праходзіць 40 дзён.

Як відаць з вышэйсказанага, даўганосікі прыносяць вялікую шкоду. 10 пар (самкі і самца) доўганосікаў са сваім патомствам пры добрых для іх умовах на працягу аднаго лета зьнішчаюць больш 5 лотаў зерня альбо больш 64 грамаў. На працягу 5 гадоў 10 пар даўганосікаў з сваім патомствам, калі ня згінуць, зьнішчаць каля 417 тон, альбо 25.500 пуд зерня.

Сьвірнёвы даўганосік шкодзіць усяму збожжу, акрамя лёну, каноплі, проса і сланэчніка.

Калі жучкоў не багата, іх магчыма і ня прыкмеціць. Каб пераканацца ў тым, ці ёсьць яны ў зерні і колькі іх там ёсьць, трэба ўзяць 2 бутэлькі вады 1 фунт альбо 400 грамаў кухоннай солі, распусьціць яе ў гэтай вадзе і ў гэту расчыну насыпаць зерня, узятага па жмені з розных месц засекі або мяшка. Здаровыя зерні, у якіх няма доўганосікаў, патонуць, а заражоныя застануцца паверх вады. Па колькасьці таго і другога зерня магчыма будзе судзіць аб ступені заражонасьці.

Калі жучок ёсьць у сьвірні, дык трэба з імі пачаць барацьбу, але лепш папярэдзіць зьяўленьне шкоднікаў, чым потым іх зьнішчаць. Каб папярэдзіць іх зьяўленьне, абходна стварыць такія ўмовы для іх, каб ім было дрэнна.

Жучок любіць цяпло. Пры цяплыні менш за дзесяць градусаў па Рэамюру ён ледзь жыў, ня спарваецца, самкі не кладуць яечак. Лепш за ўсё ён адчувае пры тэмпэратуры ў 22—25° Рэамюра. Акрамя цяпла,

жучок любіць вільготнае, парнае памяшканьне, там, дзе суха, ён дрэнна адчувае сябе, так як ня можа грызьці сухое зерня. Ён ня любіць сьвежага паветру, таму добра адкрываць сьвірні ў зыркі альбо марозны і сухі час.

Каб папярэдзіць зьяўленьне жучкоў, неабходна трымаць сьвірань у чыстаце, праветрываць яго, зерня павінна ссыпацца сухое. Сьвірань, альбо хоць-бы засекі трэба рабіць на слупох, слупы змазваць дзёгцем, паху якога жучкі ня любяць.

Усё памяшканьне (у сярэдзіне) павінна час ад часу абмазвацца вапенным малаком (3-4 фун. негашанай вапны на 1 вядро вады), альбо павінна праводзіцца апрыскваньне сьцён расчынай каўстычнай соды (2 фунты на 1 вядро вады). Калі-ж даўганосік ужо маецца ў зерні, трэба акурваць яго серавугляродам альбо серкай.

Серавуглярод—бязколерная жыжка, вельмі цяжкая, з пахам цыбулі і рэдзькі. Яна вельмі шыбка выпарваецца нават пры звычайнай тэмпэратуры, а пры 38,5$^0$ ужо кіпіць. У прысутнічаньні агню, звычайнай іскры, альбо ад замыканьня электрычнага току з сілай выбухае, таму пры працы з ім трэба быць надта асьцярожнымі з агнём. Ён сам вельмі атрутны і разьліваньне яго трэба рабіць на сьвежым паветры. Для дэзынфэкцыі сьвірня серавуглярод наліваецца ў чашкі, альбо сподкі і ставіцца ў розных мясцох сьвірня пад стольлю, так як пары серавугляроду цяжкія і апускаюцца ўніз. У памяшканьні ўсе шчыліны павінны быць замазаны. Пасьля таго, як чашкі з серавугляродам будуць пастаўлены, дзьверы павінны быць зачынены і замазаны. Памяшканьне ў такім стане застаўляецца на 24—48 гадзін. Каля дзьвярэй павінен быць пастаўлен вартаўнік, каб сюды ніхто не падыходзіў з агнём.

Серавугляроду патрэбна з разьліку 2 фунт. на 1 кубічны сажань.

Пасьля дэзынфэкцыі найперш за ўсё неабходна адчыніць дзьверы і вокны, каб выйшлі пары серавугляроду, а потым ужо ўваходзіць. Хлебу серавуглярод ня шкодзіць.

Яшчэ лепш за серавуглярод хлорпікрын, якога патрэбна 20 куб. см. на 1 куб. мэтр. плошчы. Ён атрутны як і серавуглярод, але пры агні не выбухае.

З. Сяргеева-Булаўка.

---

# Вясковае вадазабясьпечаньне.

Вадазабясьпечаньне ў сялянскай гаспадарцы адыгрывае важную ролю. Чым больш ёсьць вады і чым яна лепш, тым лягчэй вясьці гаспадарку, тым здаравей людзі і жывёла. У нас на Беларусі вадазабясьпечаньне не стаіць так востра, як у іншых краінах. У нас вада знаходзіцца зусім блізка ад паверхні зямлі і яе лёгка здабыць. Але сяляне ня ведаюць зусім простых правіл пабудовы студняў. Звычайна робяць студні ў самых нізкіх мясцох, бо да вады бліжэй, клапацяцца скарыстаць самую першую ваду верхаводку. У выніку атрымоўваецца вельмі брудная і нездаровая вада.

Ясна, што лепшымі студнямі зьяўляюцца студні з бэтонавых кольцаў альбо з жалезных труб. Яны доўгавечны і ў іх не пападае брудная вада—верхаводка. Але і драўляныя студні ў нашых умовах мэтазгодны, бо Беларусь багата лесам, а цэмант лепш скарыстаць на будаўніцтва фабрык і заводаў.

Апрача таго і кошт трубачных і бэтонавых студняў даражэй за драўляныя. Аднак, пры глыбокай вадзе, глыбей 30—40 мэтр., трэба будаваць ужо трубчата-буравую студню, бо яна будзе танней драўлянай.

Усё-ж такі драўляныя студні будуць яшчэ доўга мець вялікае распаўсюджваньне ў нас на вёсцы, чаму палепшаньне іх важна.




На прыведзеных малюнках паказана дзьве студні. Адна пабудована, як трэба, а другая зьяўляецца студняй няправільнай, з дрэннай вадой.

Якім-жа запатрабаваньням павінна адказваць добрая студня? Яна павінна быць трывалай і доўгавечнай, непранікальнай для бакавых вод і верхаводкі і даваць добраякасную ваду.

Для ажыцьцяўленьня гэтага трэба:

1) ніколі не скарыстоўваць ваду з першага пласту, бо верхаводка заўсёды брудная і зьяўляецца крыніцай хвароб. Неабходна браць ваду з другога пласту, які аддзяляецца ад першага глінай (глядзі малюнкі);




2) будаваць студні па ўхілу мясцовасьці вышэй месц накапленьня розных адкідаў. Пры немагчымасьці гэтага зрабіць, будаваць студню трэба ня бліжэй 20 мэтраў ад іх;

3) сьценкі студні павінны быць непранікальныя. Для гэтага асобныя вянцы зрубу павінны шчыльна прыганяцца, а паміж зрубамі і зямлёй неабходна забіваць добра перамешаную гліну (без гравеля і каменьняў). Сьценкі студні павінны ўзвышацца над паверхняй зямлі на 1 мэтр;

4) каля студні павінна быць ва ўсе бакі зроблена 2-х мэтров. брукаваная з каменьняў ці цэглы насып з ухілам ад студні;

5) вакол студні для сьцёку вады робяцца канаўкі;

6) вадапой жывёлы, месца праньня бялізны і г. д. трэба разьмяшчаць ня бліжэй 2—3 мэтраў ад студні;

7) забараніць карыстацца вадой з агульнай студні кожнаму сваім вядром.

Студня зьверху зачыняецца покрыўкай і над ёй робіцца драўляны шацёр (гл. малюнак). Зруб штогодна неабходна добра аглядаць, студні чысьціць;

8) для таго, каб студня не заплывала і давала больш чыстую і добраякасную ваду, вельмі добра будаваць на дне яе фільтр. Гэта значыць насыпаць спачатку пласт дробнага пяску, потым буйнага, а зьверху жарствы, каменьняў. Агульная таўшчыня фільтру каля 1 мэтру.

Неабходна адзначыць, што вышэй памянёныя правілы на вёсцы ніколі ня выконваюцца і ўсе драўляныя студні маюць выгляд паказаны на малюнку другім.

Трэба памятаць, што кожны рубель, затрачаны на палепшаньне студні, заўсёды акупіцца палепшаньнем здароўя, а адсюль і большай вытворчасьцю працы.

Пры буйным земляўпарадкаваньні Беларусі, а ў сувязі з гэтым і вялікім ліку будуемых студняў, трэба ўсім працаўнікам вёскі зьвярнуць асаблівую ўвагу на добраякаснасьць вясковага вадаснабжэньня.

**А. Ум—ў.**

---






# Вынікі працы Шэфтаварыства Горацкай с.-г. Акадэміі ў вёсцы Шарыпы.

### Як пачалася праца.

Вёска Шарыпы, якая мае больш 100 двароў, належыць да Горацкага раёну, Аршанскай акругі. Праца Горацкага Шэфтаварыства пачалася ў гэтай вёсцы ўзімку 1926 г. Па прапанове шэфтаварыства тут быў арганізаваны с.-г. гурток „Імя 1 Мая". Вызначылі сяброўскі ўзнос у суме 50 к. Спачатку сяляне не хацелі запісвацца ў гурток, але калі бядняк камсамолец Азаронка і серадняк М. Краўцоў першыя заплацілі, дык сяляне пачалі ахвотна ўступаць у гурток. Запісалася ўсяго 23 сябры, галоўным чынам, маладыя гаспадары. На сродкі, сабраныя шэфтаварыствам і ад сяброўскіх узносаў, была зроблена выпіска літаратуры, (газэты, часопісі). Шэфтаварыства адпусьціла бібліатэку ў 29 кніг па с.-г. і іншыя. Праца на зімовы час была разьмяркована такім чынам: кожнаму сябру с.-г. гуртка, калі ён умее чытаць, даваўся даклад, які ён павінен быў зрабіць пры аграноме, на агульным сходзе сялян; на пытаньні, па якіх сам дакладчык не даваў тлумачэньня, адказ даваў агроном.

### Вынікі працы.

Вясной праца, якая зімою мела тэорэтычны характар, стала выяўляцца на практыцы. Па першаму закліку шэфт-ва 15 сялян вёскі разьбілі поле на шматпалёвыя севазвароты. З гэтага-ж часу ў вёсцы ўпяршыню на сялянскіх гародах былі пасеяны буракі, морква, бручка і іншыя караньплоды. Караньплоды ўрадзіліся добрыя. На выстаўцы ўвосень 1927 г. у Сенькаве пасёлкаўцы „Махаunion" атрымалі за добрыя экспанаты па гародніцтву спружыновую барану і асыпнік, а сяляне А. Бэцікаў і Х. Дзянісаў атрымалі яшчэ і паасобныя прэміі.

З вясны 1927 году Горацкай с.-г. Дасьледчай Станцыяй былі закладзены ў пасёлку „Махаоўка" больш чым 10 досьледаў, галоўным чынам, па сортаспрабаваньню ільна, ячменю, аўса і бульбы. А ў селяніна М. Краўцова былі пастаўлены досьледы (ад УІПБ і НК) па сортаспрабаваньню ячменю і пшаніцы, якія далі добрыя вынікі. За гэтыя досьледы пасёлак „Махаоўка" і сяляне М. Краўцоў і А. Бэцікаў атрымалі дыплёмы 1-й ступені на Горацкай раённай выстаўцы. Акрамя гэтага, за жывёлагадоўлю пасёлак „Махаоўка" на жывёлаводнай выстаўцы ў жніўні 1928 г. атрымаў сячкарню і набор садовых прыладаў—усяго на 60 руб. Дзякуючы парадам агранома, селянін М. Краўцоў вядзе рахунковы аналіз сельскае гаспадаркі з 1 красавіка 1928 году, згодна інструкцыі Н. Д. І-та імя Леніна. Таксама дзякуючы працы агранома і часткова пры дапамозе чырвонаармейцаў значна пашырыўся сярод сялян і друк: газэты і часопісы.

У 1928 годзе сялянамі куплена 6 белых ангельскіх сьвіней, з якіх 2 пакінуты на племя. Акрамя гэтага, у пасёлку „Маханоўка“ ўвосень 1927 г. быў закладзены сад.

### Пляны будучага.

Вядзецца праца па арганізацыі машыннага таварыства. Сяляне і шэфтаварыства імкнуцца да таго, каб к вясьне набыць жнейку, сеялку, сартоўку, акучнікі, планэткі і інш. Сяляне жадаюць аслабаніць жанчыну ад палявых прац. Вядзецца праца па арганізацыі с.-г. каляктыву пасёлку „Маханоўка“ і суседніх хутароў. З 1928 году пастанавілі, каб уся зямля апрацоўвалася па ўказаньню агранома, які прыяжджае кожныя 2 тыдні. Дзеля таго, каб усе гэтыя мерапрыемствы праводзіліся ў жыцьцё пры с.-г. гуртку з вясны 1929 г. пачала выдавацца насьценная газэта „За лепшую вёску“. Каб больш атрымаць ведаў, у Сялянскім Унівэрсытэце пры Горацкай с.-г. Акадэміі вучылася 3 вучні з сялян в. Шарыпы, з якіх 2 камсамольцы. З лютага месяца па згодзе сялян і шэфтаварыства ў вёсцы Шарыпах існавалі месячныя с.-г. курсы, на якіх сяляне вучыліся, як перабудоўваць сельскую гаспадарку на лепшыя і зыскоўныя формы земляробства.

Трэба адзначыць і цяжкасьць набыцьця прышчэпаў. Нашыя садовыя ўстановы адпускалі прышчэпы толькі пасёлкам і калектывам для закладкі групавых садоў, а асобныя сяляне прымушаны былі купляць іх у прыватных асоб, кепскай якасьці і пераплачваць у 2—3 разы даражэй. Яшчэ аб недарэчнасьці з хлебам. У 1928 годзе вясной хлеб з крэдытных таварыстваў адпускаўся за гатоўку. Вядома, у бедняка ў гэты час грошай ня было, хлеб забралі больш моцныя сераднякі і кулакі, якія потым яго прадавалі. Далей—ачышчэньне насеньня. Праз друк уся ўвага зьвернута на тое, каб у кожным глухім кутку было адсартавана насеньне. Мы ведаем на досьледзе, што пшаніца, якая была адсартавана, дала 120 пуд. з гектара, а неадсартаваная—86 пуд. Але па гэтаму пункту ў Шарыпскім с/с. яшчэ праца сьпіць.

Але мы бярэмся выгнаць з нашай вёскі ўсе недарэчнасьці і дабіцца падвышэньня ўраджаю шляхам агульных мерапрыемстваў.

**Т. М. Краўцоў.**

---

## Сэлекцыйнае насеньне павялічвае ўраджаі.

Вясною мінулага году мною было атрымана ад райагранома 5 клгр. насеньня ячменю „Лебядзіная шыя“, прысланага з Віцебскай дасьледчай станцыі.

Як параіў аграном, я адвёў вучастак пахаці ў 750 кв. мэтр. у яравым полі, пасьля асыпных расьлін, і падзяліў яго на тры дзялянкі.

Дзялянку з ячменем „Лебядзіная шыя“ пасеяў між дзялянкамі мясцовага прасартаванага ячменю (плошча кожнай дзялянкі 250 кв. м.). Вучастак меў невялікі ўхіл з поўначы на поўдзень. У гэтым напрамку і адвёў дзялянкі, аставіўшы між імі забаронныя палосы ў 50 сантым. шырыні.

Глеба ўсяго вучастку аднолькавая—пескавы падзол. У мінулым годзе вучастак угнойваўся кароўім гноем у колькасьці 600 цэнтн. на

гектар, супэрфосфату 14 проц.—7 цэнтн. і 30 проц. калійнай солі—3 цэнтн. Была на гэтым месцы кармовая бручка, якая дала ўраджай на гект. 1.000 цэнтн. Глеба пад ячмень была раньняй вясною, як толькі падсохла, няглыбока ўспружынена накрыж у два сьляды. Потым поле было ўзарана плугам з рухавым атвалам на глыбіню да 20 сант. Перад пасевам вучастак быў праскароджаны ў адзін сьлед. Насеньне заскароджана цяжкай бараной у чатыры сьляды ўдоўж вучастку. Пасеў зроблен 12 мая (у ручную), кожная дзялянка паасобку. Адзначу, што пад ячмень ніякага ўгнаеньня ня клалася. 15-га мая выпаў моцны



Плянтацыя кармовай кукурузы на Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі.

дождж, ад якога па пахаці зрабілася скарынка. Яе прышлося зьністо-жыць раніцай 17 мая лёгкай бараной у 2 сьляды. Вясна летась, як вядома, была халодная і ўсходы ячменю зьявіліся на 10-ы дзень пасьля пасеву.

Усходы мясцовага ячменю былі сьвятлей, чым усходы ячменю „Лебядзіная шыя“. Ішлі па некалькі дзён падрад дажджы і мясцовы ячмень пачаў жаўцець, у той час як ячмень „Лебядзіная шыя“ добра ўзрастаў, не баючыся дажджоў.

Мясцовы ячмень каласіцца пачаў раней. Калі выкаласіўся ячмень „Лебядзіная шыя“, ён быў значна вышэй мясцовага ячменю. У часе пасьпяваньня, пры аглядзе досьледу суседзі разважалі, што мясцовы ячмень будзе ўмалатнейшы, бо колас ячменю „Лебядзіная шыя“ мае зерняты толькі ў 2 радкі. Я хоць таксама ня быў упэўнен у яго пера-вазе, але спадзяваўся на буйнасьць зернят і даўжыню коласа ячменю „Лебядзіная шыя“.

Мясцовы ячмень пасьпеў раней на 9 дзён. Нажата з кожнай дзялянкі па 56 снапоў.

Змалочаны ячмень з кожнай дзялянкі паасобна і ўзважаны. Ураджай наступны:

Сэлекцыйнага ячменю „Лебядзіная шыя“ зернят 76 клгр., саломы—50 клгр.

Мясцовага ячменю з аднэй дзялянкі зернят 34 клгр., саломы—45 клгр.

Зайшоў у той час да мяне сусед і, убачыўшы ўраджай ячменю „Лебядзіная шыя“—з 12 фунтаў, я намалаціў амаль 5 пудоў,—толькі дзіву даўся.

Зварачаю ўвагу, што ячмень „Лебядзіная шыя“ лепш кусьціцца і зерняты амаль-што ў два разы буйней мясцовага.

Селянін-дасьледчык **В. Мураўскі.**

Вульскі раён.

---

# Удзел нашага камсамолу ў пасеўных кампаніях.

Зараз-жа, як толькі Савецкая ўлада выпусьціла пастанову аб мерапрыемствах па падвышэньню ўраджайнасьці, ячэйка Ленінскага камсамолу нашай вёскі распрацавала яе і пачала работу па ажыцьцяўленьню вызначаных задач. Спачатку праводзіліся агульныя сходы. прычым ня толькі ў сваёй вёсцы, а рабіліся вылазкі ў суседнія, дзе ставілася пытаньне аб падвышэньні ўраджайнасьці ў Ванькоўшчыне, Філіцыянаве і інш. Пад кіраўніцтвам ячэйкі ў вёсцы Матарова ачышчана к веснавой кампаніі 3.049 пудоў насеньня аўсу, ячменю, пшаніцы і інш. Таксама ячэйкай сабрана 20 пуд. попелу, які высявалі кожны на сваёй гаспадарцы.

Для падняцьця бядняцкіх гаспадарак ячэйкай куплена два плугі, якімі бедната ўрабляла ўсю весну свае палі. За ачыстку насеньня раней іншых узяліся камсамольцы, што зрабіла добры ўплыў на сялянства. Члены ячэйкі таксама першыя пачалі пратручваць насеньне.

Папар быў засеяны амаль увесь лубінам, вікай, сэрадэляй, канюшынай і бульбай. На зіму ў нас заворваецца ўсё іржоньне. Пачалі некаторыя сяляне ўзворваць на зіму і тое поле, што заставілялася на папар, таму ўраджаі за апошнія гады шмат лепшыя. Бульбы ў нашай вёсцы высяваецца шмат, а некаторымі высяваюцца ўжо трэці год караньплоды.

Спачатку чэрвеня пачалося абгаварэньне пытаньня аб сталай падрыхтоўцы да асеньняй пасяўной кампаніі. Мяркуецца ачысьціць усё азімае насеньне, наладзіць пратручваньне ад сажы, заараць на зіму ўсё іржоньне і. г. д., для чаго пастаноўлена прасіць с/с., каб у час даў зерняачышчальныя машыны, а таксама прыняць усе захады да таго, каб ні адна жывёла ня ступіла на засевы азімага збожжа.

Селянін **Т. Трапашка.**

Вёска Матарова, Самахвалавіцк. р.

---

# Догляд жыта ўвосень і зімою.

Жыта і пасьля сяўбы вымагае догляду. Самы першы догляд за руньню, гэта абарона яе ад патравы. Да сучаснага моманту гаспадары ня бачаць вялікай шкоды ад патравы руні жывёлаю. Яны кажуць: „руні ў засек класьці ня будзем, калі год няспрыяючы, то хоць нагою ня ступі, усё роўна нічога ня будзе“. А між тым у дажджлівую восень шкода ад патравы жывёлаю можа быць асабліва вялікая. Калі добра прыглядзецца да руні, здратаванай жывёлаю, то ўбачым, што ўсё

поле пабіта на ямкі капытамі жывёлы. Частка руні ўціснута ў ямкі, частка абарвана і вырвана з глебы з карэньнем. Ямкі шкодны тым, што ў іх затрымліваецца сьнегавая вада, якая пры марозе абарачаецца ў лёд і ня прапускае паветра ў глебу. Асабліва ня трэба травіць руні авечкамі, якія акрамя лістоў выгрызаюць яшчэ і почкі, з якіх вясною вырастаюць новыя лісьцікі. Я ў 1918 г. на адну палоску пусьціў авечак, таму што была добрая рунь, а на другую ня пускаў жывёлу нагогул. З першых 300 кв. саж. атрымаў 6 пуд, зернят, а з другой палоскі з 300 кв. саж. 18 пуд. Угнойвалася і апрацоўвалася глеба аднолькава.

Догляд за азімымі расьлінамі на нізкіх палёх складаецца ў выдаленьні з поля лішкаў вады, ад якой вымакае азіміна. Тут трэба праводзіць плугам, ці асыпнікам па ўхілу разоркі для спуску вады. Разоры трэба прачышчаць ад заплываньня, каб яны добра сьцягвалі ваду з азіміны ў канаву. Пры нашай сялянскай нядбайнасьці мала зварачаецца ўвагі на тое, што азіміна пры дарогах часта так зьбіваецца калёсамі, што трудна пазнаць ці сеялася там што ці не. Таксама робіцца і на заваротных дарогах, дзе вуглы бываюць уежджаны.

Адзіны сродак прымусіць ехаць па дарозе, а не па пасеву, гэта выкапаць папярочныя канаўкі сажні на 2-3 і такім чынам прымусіць праяжджаючых не таптаць пасевы.

Далейшы догляд азіміны пачынаецца тады, як поле пры вялікіх марозах пакрываецца ледзяной скарынкаю. Ледзяная скарынка на азіміне стварае небясьпеку, што расьліны могуць задыхацца (задушыцца). Расьліны дыхаюць, як і ўсе жывыя істоты. Каб пазбаціцца гэтага, лёд на полі трэба разьбіваць, праганяючы на полі кутых коняй, ці праяжджаць зубчатым катком і дыскавай бараной. Кавалачкі лёду на полі робяць няроўную паверхню і гэтым затрымліваюць сьнег, і зн. ломка лёду дае дзьве карысьці: даецца доступ паветру да расьлін і затрымліваецца сьнег.

Усё напісанае мною па догляду за азімінай зьяўляецца вынікам маёй шматгадовай практыкі.

Селянін **А. Карнейчык.**

Х. Сарачынава, Менск. акр.

---





# Разводзьце больш вадаплаваючую птушку.

Кліматычныя ўмовы БССР, а таксама вялікая плошча балот, лугоў, вазёр і рэк вельмі спрыяе разьвядзеньню ў нас вадаплаваючай птушкі—качак і гусей. На жаль у нас гэтай галіне народнай гаспадаркі ўдзяляюць мала ўвагі, у той час як у іншых краінах разьвядзеньне вадаплаваючай птушкі дае значны прыбытак гаспадаркам. Наогул лічыцца, што разьвядзеньне курэй выгадней, чым качак і гусей, але там, дзе ўмовы спрыяюць гадоўлі вадаплаваючай птушкі, неабходна прызнаць, што кураводзтва павінна ўступіць месца гэтаму віду птушніцтва.

Па сваёй вазе, па якасьці мяса, па тлустасьці, а таксама па якасьці пяра гусі і качкі займаюць першае месца сярод дамовых птушак. Па носкасьці качкі ня ўступаюць курам. Кармленьне качак і гусей абходзіцца таней за кармленьне курэй, бо яны маюць магчымасьць усё лета пасьвіцца на выпасах травой і шасьціножкамі (кузуркамі). Рост іх найбольш хуткі, чым іншай птушкі. Попыт на мяса і яйцы таксама добры. Зімнія халады гусі і качкі пераносяць лягчэй, чым куры, і носка яек у качак настае раней, пры аднолькавых умовах утрыманьня.

Усё сказанае гаворыць за тое, што сялянству трэба разводзіць гусей і качак асабліва, дзе маюцца належныя ўмовы.

Найбольш карысным і даступным з сельска-гаспадарчых галін я лічу разьвядзеньне гэтага віду птушкі. Некалькі гадоў практыкі ў разьвядзеньні гусей мяне ўпэўнілі, што гэта адна з даступных кожнаму гаспадару галін і адна з найкарысьнейшых. Ня трэба вялікіх страт, каб атрымаць гняздо (штук 5—6 гусей) з гусаком; на гэта больш ня пойдзе як 12—15 рублёў. Догляд на працягу зімы ня цяжкі, патрабуе толькі падкормкі, ваду-ж узімку яны атрымліваюць са сьнегу. З першымі адлігамі гусі ўжо на рацэ; яны знайшлі сабе спажыву ў выглядзе карэньчыкаў, вадзяных расьлін, дробнай рыбкі і вадзяных рабачкоў,—корму патрабуецца ўжо палова зімняй колькасьці. Калі пачынаецца носка, трэба сачыць, каб не прамерзьлі яйкі і своечасова падсыпаць пад гусей не пазьней як праз 15—20 дней пасьля пачатку кладкі. Праз 29—30 дзён пасьля падсыпкі яек выводзяцца маладыя гусі. Пры вывядзеньні гусянят з яек трэба дапамагчы ім выйсьці на сьвет, дзеля чаго асьцярожна зьняць па баках праклёванага месца шкарлупу і калі пад плеўкай не паказваецца крыві, высвабадзіць галоўку гусяняці. Пры сярэдняй носкасьці, кожная гусь дае 8—10 гусянят, а да восені будзе 50—60 маладых гусей, якія будуць гатовы на продаж праз 5—6 месяцаў пасьля вывoду.

На попыт і цану маладых гусей увосень ня прыходзіцца скардзіцца. Сярэдняй велічыні гусь каштуе каля 2 руб. штука, кормленая ў 2 разы даражэй—вось вам і прыбытак у 100, а то і 200 рублёў. Калі нават аплаціць наёмнага пастушка і затрачаны корм, дык і тады застаецца значная сума. Разьвядзеньне ў шырокім маштабе вельмі карысна, бо пры такой-жа затраце працы дае большы прыбытак.

Разводзіць качак лягчэй чым гусей, ад адной пары (качкі і селезьня) магчыма атрымаць у адно лета некалькі дзесяткаў прыплоду, падкладваючы яйкі пад курэй, а яйкі апошняга зносу—пад качку. Пэрыяд насіджваньня такі самы, як і для гусей, толькі яйкі качак патрабуюць для лепшага разьвіцьця выводку большай вільгаці, чаму і раіцца з 15 дня яйкі зьлёгку апырскваць цеплаватай вадой. Самы працэс вылупленьня з яйка праходзіць лепш чым у гусей: качаняты самі разьбіваюць сваю шкарлупу і выходзяць на волю. Карміць як качанят, так і гусянят трэба пачынаць не раней як праз суткі пасьля вылупленьня з яйка.

Корм складаецца з дробна парубаных крута звараных яек з дамешкай да іх стоўчаных сухароў, або аўсянай мукі і высевак. Неабходна таксама прыбавіць дробна рубленай травы. Першыя дні неабходна карміць праз кожныя дзьве-тры гадзіны, а праз тыдзень карміць можна радзей, да корму дамешваецца ўжо вараная мятая бульба. У далейшым неабходна да корму качанятам дамешваць жывёльную ежу: мясныя і рыбныя адкіды, зьнятае малако, тварог, сыраватку і г. д. Гусям дамешваньне корму жывёльнага паходжаньня не патрабуецца.

Як качкі, так і гусі, у першыя 3—4 тыдні пасьля вываду, а калі магчыма то і да 6 тыдняў, не павінны быць на вадзе, заўважана што ў такім выпадку птушкі разьвіваюцца лепш і ня так падпадаюць хваробам.

Міх. Малыхін.

в. Шыічы, Калінкавіцкага раёну.

---

# Краснуха сьвіней.

Краснуха (rubeola) сьвіней—хвароба заразьлівая і вельмі небясьпечная. Краснуха зьнішчае шмат сьвіней ва ўзросьце ад 3 месяцаў да году. Сысуны і дарослыя сьвіньні вельмі рэдка хварэюць на краснуху. Культурныя пароды сьвіней часьцей хварэюць краснухай, чымся простыя.

Краснуху выклікае маленькі, нябачны няўзброеным вокам, мікроб. Мікроб мае выгляд простай, цененькай, сагнутай палачкі. Мікроб краснухі можа быць у зямлі, гнаі, балоце, у арганізьме сьвіньні. Каб сьвіньні не заражаліся краснухай, трэба ўважліва сачыць за кормам, каб туды не папаў мікроб. Трэба наглядаць, каб вада была чыстая і незаражоная, каб у хляве подсьцілка часта мянялася і была сухая. Брудная подсьцілка, недагледжаная ежа і вада можа служыць крыніцай для распаўсюджаньня хваробы. Праз невялічкую драпінку на скуры мікроб з бруднай подсьцілкі пападае ў арганізм сьвіньні і заражае яе краснухай. Часта сьвіньням хвароба перадаецца пры спакладаньні (кастрацыі) праз брудныя інструманты. Галоўнымі-жа пашыральнікамі пошасьці зьяўляюцца трупы жывёлы не закапанай на скоцкіх могілках. Сабакі, птушкі ды і самі сьвіньні расьцягваюць здыхляціну і гэтым забруджваюць вадапоі, пашу, рынкі і г. д. Зараза хутка распаўсюджваецца і прыносіць вялікія страты гаспадарцы.

Мяса хворых сьвіней служыць крыніцай заразы. Хворая жывёла заражае краснухай папас. Зараза пападае на зямлю і на траву з мачой, калам, гноем з вачэй, сьлізьзю з носу і г. д., а таму трэба сачыць, каб хворая жывёла не выпускалася на пашу, бо мікробы могуць доўга жыць у зямлі і зараза можа апанаваць статак нават праз год.

Краснуха мае тры віды: 1) крапіўная трасца; 2) вострая кароткачасная (скорацечная) форма і 3) хранічная (зацяжная).

Захаваны пэрыяд хваробы працягваецца ад 2—3 дзён і дасягае, часамі, 7 дзён.

1. *Краснуха сьвіней, у форме крапіўнай трасцы,* сустракаецца вельмі рэдка і хутка праходзіць без лячэньня. Адзнакі хваробы наступныя: праз дзень-два пасьля захворваньня ў сьвіней зьяўляецца сыпка ў выглядзе чырвоных, або цёмна-фіалетавых плямаў, скура становіцца ўзгоркаватай. Часамі на гэтых узгоркаватых мясцох зьяўляюцца дробныя пухіркі, якія трэскаюцца і хутка падсыхаюць (робяцца струпы). Плямы зьяўляюцца на ўсім целе, але часьцей усяго, на грудзёх, сьпіне, шыі і зьверху на сьцягне. Жывёлу ў часе хваробы трасе; яна траціць апэтыт, часта п'е ваду, вочы гнаяцца, часамі ванітуе.

Выздараўлівае жывёла даволі хутка і хвароба рэдка зацягваецца на 1—1½ тыдні. Часам хвароба ўскладняецца вопухам вушэй, хваста, сьпіны. Скура пакрываецца цёмна-чырвонымі плямамі гарачымі на вобмацак; потым праз кароткі тэрмін, скура халаднее, становіцца нячулай і мярцьвее. Пры такім цячэньні хваробы жывёла можа страціць частку вушэй, хваста або частку скуры на сьпіне. Выздараўленьне пры гэтай форме магчыма, але ў жывёлы на хворых месцах застаюцца брыдкія шрамы.

2. *Вострая форма краснухі сьвіней* выражаецца ў тым, што жывёла захворвае раптоўна. Жывёла закопваецца ў салому, вочы чырванеюць, сьлязяцца, вейкі апухаюць і пасьля кароткага запору зьяўляецца мыт. Жывёла становіцца сумнай, ня рухаецца, нават тады, калі да яе падыходзяць чужыя людзі. На другі дзень хваробы на вушох, шыі, бруху зьяўляюцца спачатку ярка-чырвоныя, а потым фіалетавыя плямы, скура на гэтых месцах прыпухае і часамі пакрываецца пухіркамі. У жывёлы зьяўляецца хрыпка, ёй цяжка дыхаць, слабее зад.

Вострая форма краснухі сьвіней пазнаецца яшчэ так: націскаюць пальцам на пляму—скура зараз-жа бляднее, а як толькі палец аднімаецца, скура зноў чырванее.

Праз 3-4 дні жывёла гіне. Здараюцца выпадкі, што жывёла выздараўлівае.

3. У некаторых сьвіней *вострая форма хваробы пераходзіць у хранічную.* Пры хранічнай форме краснуха паражае сэрца. Звычайна жывёла пасьля 1—1½ месяцаў па выздараўленьні ад вострай формы краснухі, пачынае кепска есьці, кашляе, пры руху цяжка дыхае. Хворую жывёлу трасе, зьяўляецца запор і мыт. Жывёла худзее, слабее і гіне праз адзін—два месяцы.

*Лечаць хворых сьвіней прышчэпкамі* супроцькраснушнай сывараткай, якая ўпырскваецца пад скуру.

Каб абараніць гаспадарку ад заразы, трэба купленых сьвіней трымаць у асобным хлеве 3 тыдні. Калі за гэты тэрмін хвароба ня зьявіцца, гэта будзе сьведчыць, што сьвіньня здаровая. Пры зьяўленьні-ж у гаспадарцы краснухі, трэба ўсіх здаровых сьвіней перавесьці ў новае чыстае памяшканьне, падзяліўшы іх на групы па 3—5 штук. Трэба добра прадэзынфэктаваць памяшканьне крэалінай з вапнай. Спыніць выган на пашу. Каб папярэдзіць распаўсюджаньне пошасьці трэба зараз-жа аб зьяўленьні краснухі паведаміць вэтэрынарнага доктара, або фэльчара, а там, дзе няма вэтпэрсаналу, заявіць у сельсавет, вэтсанапякуну. Апрача гэтага трэба не марудзячы закапаць на скоцкіх могілках трупы загінуўшых ад краснухі сьвіней.

Выклікаты вэтэрынарны доктар або фэльчар аглядае сьвіней гаспадаркі і робіць усім сьвіньням ахоўваючыя прышчэпкі. Прышчэпкі папераджаюць хваробу ў здаровай сьвіньні і дапамагаюць выздараў-

леньню захварэўшай. Прышчэпка часта ставіць на ногі сьвіньню, якая амаль што не падавала ніякай надзеі на выздараўленьне.

Ніколі ня трэба забывацца, што правільнае кармленьне, добры догляд, чыстае сьветлае памяшканьне, робяць жывёлу вытрывалай, здольнай змагацца з заразьлівай хваробай. У нас-жа на Беларусі якраз наадварот. Будуюць цесныя, цёмныя, вільготныя хлявы і кепска даглядаюць сьвіней. Такія неахайныя ўмовы гадоўлі сьвіней спрыяюць распаўсюджаньню пошасьці і часта зьнішчаюць сьвіней ня толькі аднэй гаспадаркі, а цэлай вёскі, раёну.

Мы вельмі лёгкамысна адносімся да закапваньня трупаў жывёлы загінуўшай ад заразьлівай хваробы. Часта трупы выкідаюцца проста на дарогу, за гумно, у рэчку. Жывёла і птушкі, як мы ўжо казалі, разносяць заразу навокал. Апрача гэтага гандляры сьвіньнямі амаль што заўсёды служаць крыніцай заразы. Убой сьвіней дома, не ў разьніцы, дзе кожную жывёлу агледае вэтпэрсанал, дапамагае распаўсюджаньню заразы. Сабакі, куры і інш. дамовая жывёла, расьцягваючы адкіды, распаўсюджваюць заразу на вёсцы.

Толькі кіруючыся вышэйпамянёнымі правіламі і парадамі вэтпэрсаналу можна забясьпечыць жывёлу ад заразы, а гаспадарку ад страт.

Вэтэрынарны доктар **Богаяўленскі**.

---






## Ужывайце гародніну і садовіну.

Гародніна і садовіна ў нас на Беларусі павінна заняць адно з галоўных месц. Дзякуючы нашаму недагляду на ўжываньне гародніны і садовіны не зьвярталася належнай увагі.

У Заходняй Эўропе і Амэрыцы, наадварот, гародніне і садовіне аддаецца выключная ўвага. Апошнія навуковыя досьледы па фізыолёгіі жыўленьня паказалі, што для нармальнага жыўленьня чалавека



Гатункі капусты на беларускай станцыі Ўсесаюзнага Інстытуту П. Б.

неабходны: бялкі, тлушчы, вугляводы, солі, вада і вітаміны. Краіны Заходняй Эўропы і Амэрыка ў шырокім маштабе на навуковых падставах праводзяць у жыцьцё рэформу жыўленьня. Камісія па ахове здароўя ПАЗШ рэкомэндуе расходваць на жыўленьне: палову здабываемых сродкаў на гародніну, садовіну і інш. расьлінную ежу, чвэрць сродкаў на малако і рэшту—чвэрць на мяса, рыбу, прысмакі і г. д.

Тая вялізарная колькасьць бялкоў (галоўным чынам у выглядзе мяса), якая ўжываецца намі, па досьледам амэрыканскага фізыолёга Чыттэндэна прыносіць чалавеку не карысьць, а, наадварот, шкоду (абцяжарвае пячонку і ныркі).

Скласьці для чалавека дзенную норму жыўленьня з неабходнай колькасьцю калёрый, але пры малай колькасьці бялка, магчыма толькі з увядзеньнем у яе (норму) расьліннай ежы. Швэдзкім вучоным Бэргам складзены наступная дзенныя нормы для чалавека разумовае працы: бялка 40—50 грамаў, тлушчу—25—30 грамаў, вугляводаў 350—400 грамаў.

Сучасная фізыолёгія жыўленьня патрабуе,—пры ўжываньні чалавекам жывёльнай і расьліннай ежы—„устанавіць паміж імі новыя ўзаемаадносіны. Нямецкі дасьледнік Кох вызначае гэтыя ўзаемаадносіны лічбай—6, г. зн. лічыць, што колькасьць ежы (гародніна і садовіна) павінны ў 6 раз перавышаць колькасьць ежы з лішкам кіслаты (мяса, рыба, яйкі і г. д.). Такім чынам, мы прыходзім, хоць і паволі, да неабходнасьці ўсьведамленьня карысьці расьліннай ежы.

Аналіз жыўленьня гарадзкое насельнасьці Ленінграду, які быў праароблены нядаўна, паказвае, што там у ежы бывае прымерна 60 проц. хлеба, 20 проц. жывёльнай ежы, 10 проц. гародніны-садовіны і 10 проц. іншых прадуктаў.

Значыцца, у ежы мае перавагу мяса, хлеб і тлушчы, г. зн. элемэнты кіслаты.

Але нам вядома, што склад ежы з штодзенным лішкам кіслаты і ў процівагу гэтаму з вялікім недахопам асноўных соляй, ды яшчэ пры надзвычайна малай колькасьці вітамінаў, вядзе да сумных вынікаў. Адсутнасьць у маладога пакаленьня зубоў, костная слабасьць, павышаная ўзбуджальнасьць нэрвовай сыстэмы, адсутнасьць энэргіі і, урэшце, кепскі гумар, усё гэта, галоўным чынам, рэзультаты штодзённых сыстэматычных, да гэтага часу не ўсьвядомленых памылак нашага жыўленьня.

Разглядаючы нашу ежу з пункту погляду яе кіслотнасьці і асноўнасьці лёгка заўважыць, што лішак кіслаты знаходзіцца іменна ў мясе, яйках, рыбе, жывёльным тлушчы, зернях хлеба, сыры і ў некаторай гародніне. Найбольш кіслаты знаходзіцца ў мясе і асабліва ў курыным і ў звычайнай ялавічыне.

Наадварот, лішак асноў мы знаходзім перш за ўсё ў гародніне, садовіне і ягадах; ужываючы іх мы збагачаем наш організм і кроў, нэўтролізуем кіслоты (продукты распаду бялковага жыўленьня), ствараючы той неабходны для організма перавес асноў, пры якім толькі і магчыма поўная актыўнасьць вітамінаў і правільнае функцыянаваньне эндокрынных залоз.

У сваю чаргу гародніна, садовіна і ягады зьяўляюцца галоўнай крыніцай вугляводаў. Дасягненьні-ж апошніх часоў у фізыолёгіі жыўленьня цьвёрда ўстанаўляюць той факт, што іменна вугляводы (а не бялкі) зьяўляюцца крыніцай энэргіі. Уся работа цягліц адбываецца пры ўдзеле вугляводаў. Адначасна расьлінныя прадукты жыўленьня зьмяшчаюць значную колькасьць абалоніны, клятчаткі, якая неабходна для правільнага функцыянаваньня страўніка.

Урэшце, гародніна, садовіна і ягады зьмяшчаюць у сабе вітаміны, якія рэгулююць усе жыцьцёвыя працэсы ў нашым організьме.

З гародніны найбольш багаты вітамінамі: капуста—вітаміны А, В і С,—асабліва шмат вітамінаў С. Вось чаму капуста служыць добрым лякарствам супроць цынгі. У Амэрыцы распаўсюджана салата з сырой звычайнай капусты. Такая капуста вельмі каштоўная ежа: яна аздараўляе арганізм чалавека, дзякуючы вялікай колькасьці вітамінаў і мінэральных элемэнтаў. Вельмі карысна ўжываць кіслую капусту, асабліва пры сахарнай хваробе. Па Майерхофэру кіслая капуста добра і лёгка

ператраўліваецца і зьяўляецца рэгулючым сродкам стравы ваньня (што можна вытлумачыць дзеяньнем малочнай кіслаты, якая разбурае абалоніну (клятчатку) і пэптынізуючай бялкі). Вось чаму тлустую, цяжка ператраўліваемую ежу ўжываюць з кіслай капустай.

Салаты, а таксама і шпінаты адзначаюцца вялікай колькасьцю вітамінаў; заключаюць у сабе ўсе тры вітаміны A, B і C і асабліва вітамін A.



Культура гуркоў на Балотнай станцыі Інстытуту.

Яны зьмяншаюць у сабе шмат мінэральных элемэнтаў як, напр., калія, кальцыя, дзякуючы чаму ў іх наглядаецца лішак асноў. Заслугоўвае ўвагі прысутнасьць, у вялікай колькасьці жалеза, якое лёгка ўсвойваецца организмам, чаму салаты і шпінаты рэкамэндуюць пры розных формах хлёрозу.

Дзякуючы вялікай колькасьці вітамінаў і значнаму лішку асноў, яны ачышчаюць кроў, асьвяжаюць і аздараўляюць арганізм. Асабліва вялікую колькасьць шпінатаў ужывае Амэрыка. Каліфорнія штогод адпраўляе ў Нью-Ёрк 30—40 тысяч вагонаў салату і шпінату. Іх сок, дзякуючы высокай аздараўліваючай уласьцівасьці, даецца ў Амэрыцы таксама і грудным дзецям.

Цыбуля мае ў сабе вітаміны B і C, дзякуючы чаму і служыць сродкам супроць цынгі. Заключае ў сябе калі і серку. Апрача таго у ёй знаходзіцца эфірнае масла, якое дзейнічае аздараўляюча на кроў. Цыбуля павышае інтэнсыўнасьць абмену матэрый, узбуджае і адмалоджвае арганізм. Вільдэнбранд канстатуе лекавыя ўласьцівасьці цыбулі супроць вяласьці страўніка і некаторых форм страўнікавых катараў, а таксама яе дэзынфэкцыруючую ўласьцівасьць.

Бульба заключае ў сабе значную колькасьць вітамінаў B і C і малую колькасьць вітаміну A. Пры доўгім ляжаньні бульба траціць

вітамін С. Таму натуральна лепей ужываць сьвежую, маладую бульбу, якая ў гэты час мае шмат вітамінаў С.

Морква выключна багатая вітамінамі А, В, С. Сок яе валадае надзвычайна моцнымі антырахітычнымі ўласьцівасьцямі і таму ён павінен заняць віднае месца ў жыўленьні грудных, асабліва штучна гадаваных дзяцей. Морква заключае ў сабе вялікую колькасьць калія, натрыя і кальцыя, чаму сок морквы ўжываецца, калі трэ' нэўтралізаваць лішак кіслаты ў нашай крыві. На гэтай іменна ўласьцівасьці морквы і пабудована мудрае народнае назіраньне—ужываць маркоўны сок пры розных наскурных захворваньнях (якія зьяўляюцца ад лішку кіслаты ў нашай крыві).

Ня менш важнае значэньне мае садовіна і ягады. Яны зьмяшчаюць ў сабе вялікую колькасьць вугляводаў, якімі найбольш багаты ў процантных адносінах: сьліва—20 проц., вінаград—19,2 проц., парэчкі чорныя—19,2 проц., і грушы—17,2 проц., вішні—16,7 проц., яблыкі—14,2 і маліна—12,6 проц.

Ягады і садовіна зьмяшчаюць у сабе шмат соляй, як, напрыклад: калі, кальцы і жалеза.

Першае месца па колькасьці жалеза займаюць: пазёмкі—4,1 проц., аграст—3,2 проц., сьліва—2,2 проц., вішня—1,4 проц., яблыкі—1 проц., ігруша—0,7 проц., маліна—0,6 проц. і вінаград—0,1 проц. Жалеза-ж у нашым арганізьме зьяўляецца стымулем для цэнтраў, якія выраблямоць кроў; апрача таго яно ўваходзіць у склад гемоглобіна крыві.

Абядненьне крыві мінэральнымі элемэнтамі выклікае сардэчную і цяглічную слабасьць, вяласьць стрававальных працэсаў, недахоп зубоў, а таксама зьмяншэньне жыцьцяздольнасьці ўсіх тканак і органаў у нашым арганізьме.

Такім чынам, ня глядзячы на тое, што адзіным насіцелем асноў зьяўляецца гародніна, садовіна і малако, мы іх звычайна ўжываем у ежу ў самай абмежаванай колькасьці. У сваю чаргу наш звычайны, штодзенны стол, які складаецца з мяса, рыбы, яек, белага без вітамінаў і вапны хлеба і аналёгічных яму па складу,—продуктаў макаронаў і г. д. бывае залішне багаты кіслотамі.

У гэтых адносінах навейшыя навуковыя дасягненьні зрабілі ў фізыолёгіі жыўленьня сапраўдную рэволюцыю, устанавіўшы зусім новую ацэнку бялкоў і вугляводаў і новая норма для іх узаемаадносін, а таксама паказалі, якую ролю і значэньне ў організьме чалавека адыгрываюць вітаміны і, тым самым, высунулі на першы плян дагэтуль невядомае і выключна важнае значэньне гародніны, садовіны і малака, як прадуктаў жыўленьня чалавека.

У сувязі з гэтым палепшаньне жыўленьня шырокіх мас насельніцтва і асабліва фабрычна-заводзкага павінна ісьці ў першую чаргу па лініі павялічэньня ўжываньня гародніны, садовіны і малака. У гэтым заключаецца ня толькі разьвязаньне часовых труднасьцяй перажываемага намі моманту, але і вялізарнейшая праблема будучыні.

**А. Е. Сюбараў.**

Беларускае аддзял. Усесаюзн. Інстытут
Прыкладн. Батан. і Н. К.

# Да ўсіх Раймясцкомаў Працасьветы і настаўніцкіх каляктываў.

Зацьверджаны XVI Партыйнай Канфэрэнцыяй і V Усесаюзным Зьездам Саветаў 5-цігадовы плян, у якім востра пастаўлена проблема перабудовы сельскай гаспадаркі і падняцьця ўраджайнасьці, патрабуе ад усяго насельніцтва вельмі вялікай увагі і актыўнага ўдзелу па ажыцьцяўленьню вызначаных у ім мерапрыемстваў. Асаблівую ролю ў гэтай справе павінны адыграць нашы культасьветныя працаўнікі, на якіх ляжыць вельмі цяжкая і адказная праца ў галіне ліквідацыі агранняпісьменнасьці сярод сялянства шляхам агранамізацыі школ. Ад кожнага асьветніка патрабуецца асаблівая ўвага да гэтай справы. Разам з вусным словам, наш пэрыодычны с.-г. друк зьяўляецца першым дапаможнікам у працы нашага настаўніцтва ў школах і ў іх па-зашкольнай працы. Рэдакцыя часопісу „Шляхі Калектывізацыі“, які зараз выдаецца замест ранейшага часопісу „Плуг“, зьвяртаецца да ўсіх Раймясцкомаў Працасьветы, каб яны правялі растлумачэньні паміж настаўніцкіх калектываў і сялянствам (пастаноўкай гэтага пытаньня на васеньніх настаўніцкіх канфэрэнцыях) тэй ролі, якую павінна адыгрываць усебеларуская сельска-гаспадарчая часопіс „Шляхі Калектывізацыі“ у якасьці дапаможніка ў штодзеннай працы настаўніцтва. Да гэтага часу наша настаўніцтва амаль што не карыстаецца ў сваёй працы пэрыодычным с.-г. друкам, адчуваючы ў той-жа час вялікі недахоп у сельска-гаспадарчай літаратуры.

Рэдакцыя спадзяецца, што ўсе Раймясцкомы Працасьветы прымуць актыўны ўдзел у распаўсюджваньні часопісу „Шляхі Калектывізацыі“ паміж настаўніцтвам, калектыву і сялянства і на сваіх васеньніх профканфэрэнцыях усе, як адзін, падпішуцца на вельмі патрэбны пэрыодычны сельска-гаспадарчы часопіс „Шляхі Калектывізацыі“.

Разгортваемае сацыялістычнае спаборніцтва па заводах, фабрыках, саўгасах і г. д. павінна мець месца і сярод Раймясцкомаў, Профупаўнаважаных, настаўніцкіх калектываў і дапамагаць прасоўваньню с.-г. літаратуры ў гушчы сялянства і вясковай інтэлігенцыі, бо с.-г. літаратуры яшчэ да гэтага часу вельмі мала на вёсцы.

Рэдакцыя лічыць, што кожны Раймясцком, кожны профупаўнаважаны, кожны настаўнік павінен быць падпісчыкам папулярна-практычнага часопісу *„Шляхі Калектывізацыі“*; яны павінны прыняць самы жывы ўдзел у соцыялістычным спаборніцтве і ў прасоўваньні с.-г. друку ў масы, асабліва часопісу *„Шляхі Калектывізацыі“*.

Просьба да ўсіх мясцкомаў Працасьветы ў кастрычніку месяцу прыслаць зьвесткі ў рэдакцыю аб выніках праведзенай працы, а таксама прыняць удзел у часопісу ў высьвятленьні мэтадаў і форм працы ў прасоўваньні сельска-гаспадарчай літаратуры на вёску.

Кошт часопісу да канца гэтага апэрацыйнага году:

| | | |
|---|---|---|
| на год. . . . . | 2 р. | 20 к. |
| на паўгода . . . | 1 „ | 10 „ |
| на 3 м-цы . . . | — | 60 „ |
| на 1 м-ц . . . . | — | 20 „ |

Пры падпісцы Раймясцкомамі непасрэдна праз рэдакцыю для ўсяго настаўніцкага калектыву даецца скідка 10 проц. і ў дадатак гадавым падпісчыкам прэмія, кнігі па сельскай гаспадарцы.

**Рэдакцыя.**

Адк. рэд. **П. Рачыцкі.** Рэдактар—**Рэдкалегія.**

ЦАНА 20 КАП.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

—) НА (—

# „Шляхі Каляктывізацыі“

## Часопіс каляктывізацыі, вытворчага с.-г. каапэраваньня і агранамізацыі насельніцтва.

**Выданьне Наркамзему, Белкалгассаюзу і Белсельсаюзу БССР.**

У 1929 годзе (пачынаючы з ліпеня месяца) выходзіць раз у месяц (выдаецца замест ранейшага часопісу „Плуг“, выданьня НКЗБ).

У 1930 годзе мяркуецца выдаваць двухтыднёвік, памерам 48—56 старонак.

**Часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“ ставіць сваёй мэтай у папулярнай** форме адбіваць шляхі каляктывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.

**Задачы часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“**—згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу павышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязан з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў, з Інстытутам Сялян-Дасьледчыкаў і перадавым актывам вёскі.

У часопісу прымаюць удзел:

Працаўнікі калгасаў, прафэсары і навуковыя працаўнікі Беларускай С.-Г. Акадэміі і Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна, спэцыялістыя Наркамзему БССР, настаўнікі, сяляне-дасьледчыкі і інш.

**Падпісная плата на 1929 г.**

На 6 месяцаў . . . . . . . . . . . . . 1 р. 10 к.
„ 3 „ . . . . . . . . . . . . . — 60 „
Паасобны нумар . . . . . . . . . . — 20 „
На год (6 нумароў „Плуга“ і 6 нумароў „Шляхі Каляктывізацыі“ . . . . . . . 2 р. 20 к.

Падпісчыкам „Плуга“ да канца 1929 г. будзе высылацца часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“.

**Падпісная плата на 1930 г. (мяркуецца):**

За год 24 нумары . . . . . . . . . . . . 3 р. 10 к.
„ паўгода 12 нум. . . . . . . . . . . . 1 р. 75 „
На тры месяцы . . . . . . . . . . . — 90 „
Паасобны нумар . . . . . . . . . . . — 20 „

Ёсьць камплекты „Плуга“ за ранейшыя гады. Цана камплекту 1 р. 10 к.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 71, НКЗБ.